НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 9 (750) 7 сакавіка 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва,



## Самыя сэксуальныя мужчыны Беларусі

**Спецыяльна да 8 Сакавіка: вядомыя беларускі называюць тых, хто вымушае іх сэрцы біцца мацней.** **Старонка 9.**

# Хлопцы з граніту

Трэці месяц у Мікашэвічах працягваецца змаганне рабочых за права стварыць **рэальны прафсаюз**. Старонкі 4-5.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ані Алег Стахаевіч (злева), ані Мікалай не шкадуюць, што ўвязаліся ў канфлікт з начальствам.**

Тэндэнцыі

## Рубінаў заклікае ўвесці ў Беларусі расійскі рубель

«**Тым хутчэй** мы зможам развіць інтэграцыйныя працэсы».

Зачапіўшы ў сваім артыкуле ў газеце «Советская Белоруссія» эканамічную сітуацыю, старшыня савета рэспублікі, акадэмік Анатоль Рубінаў, піша: «Дазволю сабе выказаць асабістае меркаванне: без увядзення адзінай валюты гэтыя праблемы не вырашыць. Прычым, у першую чаргу, па маім перакананні, неабходна ўвесці яе ў рамках саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, прыняўшы ў якасці адзінай валюты расійскі рубель. Чым раней такое рашэнне будзе прынята, тым хутчэй мы зможам развіць інтэграцыйныя працэсы».

Рубінаў — адзін з самых блізкіх да Лукашэнкі чыноўнікаў. Ён доўгі час быў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, а цяпер займае фармальна трэцюю пасаду ў дзяржаве.

72-гадовы Рубінаў праславіўся не толькі як навуковец ці дзяржаўны дзяяч. Ён яшчэ і паэт, аўтар папулярнага верша пра нацыянальны характар усходніх славян, вядомага па словах «дух з туалецішча».

Увядзення адзінай валюты дабіваецца Расія. Маскве гэта трэба, бо гэта будзе такая прывязка да Расіі, з якой Беларусі немагчыма будзе вырвацца.

У выніку неэфектыўнасці збудаванай лукашэнкаўцамі эканамічнай мадэлі яны маюць заўсёдную патрэбу ў субсідыях з Масквы.

**Мікола Бугай**



## З днём жанчын!

Віншуем дарагіх аўтарак і чытачак «Нашай Нівы». Ваша хараство прымушае нас расправіць плечы, а ваша дабрыня трымае свет. Не журыцеся, а весяліцеся, адпачывайце ды не перажывайце!

Палітыка

## Расійская плошча не прастаяла і гадзіны

Пуцін пераабраны прэзідэнтам Расіі. **Старонка 3.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Беларусы зарабляюць найменш у рэгіёне

Сярод краін-суседак **у нас самыя** малыя даходы.

Самыя высокія заробкі цяпер у Польшчы — пад 1000 еўра ўжо. На 80 еўра менш у сярэднім зарабляюць эстонцы. Здзівілі заробкі расейцаў: сярэднестатыстычна перад выбарамі Пуцін зрабіў іх вышэйшымі, чым заробкі ў Літве. А ўкраінцы ў снежні атрымалі ў сярэднім на 30 еўра больш за беларусаў, піша «Комсомольская правда».

Пры гэтым у Беларусі доля дзяржсектара ў эканоміцы найвышэйшая ў рэгіёне, нашмат большая, чым у іншых краінах. А гэта азначае, што і доля зарплат у крыніцах даходаў у Беларусі найбольшая.




## Польскі аналітык: Варта зыходзіць з таго, што Беларусь страціць незалежнасць

Еўрасаюзу трэба прыстасаваць да гэтага сваю стратэгію, піша **Войцех Бародзіч-Смалінскі**.

Эксперт уплывовага польскага аналітычнага Цэнтра міжнародных адносін апублікаваў артыкул з аналізам сітуацыі ў Беларусі. І беларуска-еўрапейскіх адносін у святле апошняга дыпламатычнага канфлікту. Бародзіч-Смалінскі піша пра рэаліі, на якія раней у Еўропе імкнуліся заплюшчваць вочы. Заплюшчвалі, бо яны малапрыемныя.

Пасля ўваходжання ў Мытны саюз і Адзіную эканамічную прастору Беларусь развіталася з часткай суверэнітэту. І гэтыя змены маюць незваротны характар, мяркуе Бародзіч-Смалінскі. Крок за крокам Расія ўзмоцніць кантроль. У Беларусі застануцца толькі фармальныя прыкметы суверэнітэту. Трэба ўспрымаць гэта як дадзенасць і з гэтага зыходзіць, і пры гэтым працягваць падтрымку незалежніцкага руху, мяркуе аналітык.

«Еўрасаюзу разумней было б заплюшчыць вочы на далучэнне Беларусі Расіяй, — так можна каротка сфармуляваць правакатыўную думку Бародзіча-Смалінскага. — Гэта хутчэй прывядзе да зменаў у Беларусі, чым адваротны падыход». Праўда, сам аналітык прызнае рызыкоўнасць такога падыходу.

**Мікола Бугай**

Поўны тэкст ягонага артыкула можна прачытаць на інтэрнэт-сайце NN.BY.



# Перамога ў пагоні!

**Домрачава** выйграла першае золата на чэмпіянатах свету.

Беларуска Дар'я Домрачава выйграла 4 сакавіка золата на чэмпіянаце свету па біятлоне (Рупольдынг, Нямеччына) у гонцы пераследу на 10 км.

Дар'я пайшла на дыстанцыю другой праз 15,2 секунды за Магдаленай Нойнер, зрабіла два промахі (па адным на 2-м і 3-м этапах).

Вырашальнай стала 4-я стральба. Магдалена Нойнер двойчы спудлавала, а Даша адстралялася чыста і выйшла на дыстанцыю першай.

Дыстанцыю беларуска прабегла за 29 хвілін 36,6 секунды. Праўда, пасля фінішу суддзі папсавалі нервы заўзятарам і самой Дар'і, пачаўшы абмяркоўваць вынікі апошняй стральбы Нойнер: маўляў, не спрацавала электроніка і Магдалена дарэмна бегла другое штрафное кола...

Прэцэдэнт быў у першай гонцы чэмпіянату свету 1 сакавіка, дзе аўтаматыка не спрацавала і адправіла Оле-Эйнара Б'ёрндалена на штрафное кола. Потым перамогу аддалі нарвежцам.

Але, здаецца, усё нармальна. Дар'я — на верхняй прыступцы п'едэсталу. Гэта першае індывідуальнае золата беларусаў за ўсю гісторыю суверэннага спорту на чэмпіянатах свету.

Нагадаем, што ў суботу Дарка выйграла срэбра ў спрынце 7,5 км.

**АГ**

**Нойнер: «Калі я чую слова «Домрачава», у мяне пачынаюць бегаць мурашкі**

Даша ніколі нічога не аддасць на лыжні проста так. З ёй заўсёды цікава. Я паважаю Дашу і вельмі ўдзячная, што ў мяне асобе ў мяне ёсць такая суперніца.

### Сцісла

**Замежны доўг дасягнуў 34 мільярды даляраў**

Валавы замежны доўг Беларусі за 2011 год вырас на 5,6 млрд даляраў, або на 20%, і на 1 студзеня 2012 года склаў 34 млрд 28 млн даляраў. Пра гэта паведаміў у Нацбанку. Кожны беларус цяпер вінаваты 3595 даляраў.

**Абарваўся інтэрнэт — распісаў мацюкамі**

Мінчука арыштавалі за мацюкі на адрас «Белтэлекама». 37-гадовы жыхар горада распісаў нецэнзурнымі словамі офіс «Белтэлекама», пакрыўджаны тым, што кампанія не забяспечыла яму ўстойлівае злучэнне.

Начны час гора-графіціст бавіў у інтэрнэце. У нейкі момант доступ перарваўся. Карыстальнік патэлефанаваў сябру і даведаўся, што ў таго тыя ж праблемы. Яшчэ больш раззлаваны, ён захацеў асабіста разабрацца, што ж адбылося.

Народны «мсцівец» а другой гадзіне ночы ўзяў таксі і паехаў да «Белтэлекама» на вуліцу Энгельса. Дзверы, зразумела, былі замкнёныя. Тады мужчына дастаў чырвоны маркер і пачаў распісваць аконныя ралеты.

У гэты час побач з будынкам стаяў аўтобус з амонаўцамі (калі ж яны спяць, небаракі?). Яны і затрымалі «графіціста». Суд пакараў яго пяццю суткамі арышту.

**МАЗу трэба рэканструкцыя**

Сёлета адна з асноўных задач Мінскага аўтамабільнага завода — пачаць карэнную рэканструкцыю вытворчасці, паведаміў першы намеснік гендырэктара МАЗ Анатоль Дзядкоў. Пачынаецца мадэрнізацыя ліцейнага завода і прэсава-кузаўнога завода. На працы трэба 280–300 мільёнаў даляраў.

**Урад гатовы павялічыць заробкі да 4 мільёнаў**

Міністэрства эканомікі прагназуе, што сярэднегадавая тарыфная стаўка першага разраду ў 2012 складзе 212,5 тыс. рублёў. Паводле прагнозу, намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў снежні 2012 дасягне 4 мільёнаў рублёў.

**СГ; БелаПАН, Onliner.by**

### Самае чытанае за 29 лютага — 6 сакавіка

1. Скандал: Жырыноўскі абразіў Пугачову ў жывым эфіры — відэа
2. Сапраўдныя беларускія сімвалы
3. Бел-чырвона-белае ў паўсядзённым — фоты
4. Еўрапейскія краіны адклікаюць паслоў з Беларусі
5. Як міліцыя называе Лукашэнку
6. Антыпуцінскі мітынг у Маскве скончыўся спецназаўскай зачысткай
7. Абломаў, Сабчак і Парфёнаў запісалі жорсткі хіт «Пока, Медвед» — відэа
8. Юрый Зісер: За краіну ці супраць Лукашэнкі?
9. Рубінаў заклікае ўвесці ў Беларусі расійскі рубель
10. За наведванне паліклінікі прапануюць увесці сімвалічную плату 5 тыс. рублёў

# Расійская Плошча не прастаяла і гадзіны

Пуцін пераабраны прэзідэнтам Расіі. Спецназ **раздушыў маскоўскую вясну**, калі яна ўжо затухала сама.

Уздым народнага абурэння, які пачаўся ў Расіі пасля парламенцкіх выбараў у снежні 2011, стаў затухаць. Гэта адбылося яшчэ да таго моманту, як было афіцыйна абвешчана: Уладзімір Пуцін становіцца новым-старым прэзідэнтам краіны, атрымаўшы 63,6% галасоў.

Апазіцыя кінула свае сілы на тое, каб забяспечыць правядзенне сумленных выбараў. Тысячы назіральнікаў па ўсёй краіне сачылі за тым, каб у крыштальна празрыстыя скрынкі для галасавання не патрапіў ніводзін лішні бюлетэнь, а выбарчыя камісіі не дапісалі Пуціну ніводнага лішняга голасу.

### Карусель працягвае свой бег

Часткова гэта ўдалося. Колькасць фальсіфікацый зменшылася, хоць расійскія народныя гульні ў «каруселі» засталіся. Рэч у тым, што, згодна з заканадаўствам, кожны расіянін, які не зможа галасаваць на ўчастку каля свайго дома, мае права ўзяць адмацавальнае пасведчанне.

З гэтым дакументам ён можа з'явіцца ў любой кропцы краіны і прагаласаваць там. У выніку па Расіі каталіся калоны аўтобусаў з бюджэтнікамі і рабочымі, якія спыняліся на кожным участку і галасавалі там за Пуціна. Назіральнікі маглі хіба што сфатаграфаваць аўтобусы, якія ад'язджалі на наступны ўчастак.

### Другі тур сваімі вачыма

Вядома ж, такая карціна назіралася не на кожным участку. Напрыклад, карэспандэнт «Нашай Нівы» зарэгістраваўся назіральнікам на ўчастку №3015 у маскоўскім спальным раёне Тушына. Тут галасаванне было ўзорна-паказальным. Ніводнай каруселі, ніводнага ўкінутага бюлетэня, затое бязмежныя правы назіральнікаў.

Сябры камісіі дазволілі стаяць побач з сабой падчас падліку галасоў і нават пераправяраць раскладзеныя стосы бюлетэняў. Вынікі асобна ўзятага ўчастка маглі дадаць аптымізму тым, хто спадзяваўся на другі тур. Пуцін набраў усяго 47%, другім стаў мільярдэр Міхаіл Прохараў (21%), а трэцім камуніст Генадзь Зюганаў (17%).

Падобным чынам прагаласавалі і іншыя масквічы. У выніку Пуцін не набраў у сталіцы 50%. Калі ж яшчэ ўлічыць невысокую яўку, то атрымліваецца, што ўсяго чвэрць жыхароў сталіцы аддалі свае галасы дзейнаму прэм'ер-міністру.

### Выбары без апазіцыі

Моладзь ішла на выбары без імпэту, бо не бачыла ў спісе кандыдатаў свайго фаварыта. Нішу пратэстнага моладзевага лідара пастараўся заняць Міхаіл Прохараў. Ягоны штаб праводзіў актыўную агітацыю ў сацыяльных сетках, спрабаваў прэзентаваць кандыдата як у дошку свайго Мішу. У выніку дэбютант выбараў здолеў набраць 8% і ўзняцца на прэстыжную трэцюю прыступку.

Другое месца за кошт падтрымкі пенсіянераў захаваў за сабой Генадзь Зюганаў (17%). Заўсёднік выбараў Уладзімір Жырыноўскі атрымаў усяго 6%. Многія эксперты сышліся ў меркаванні, што праваЛ ЛДПРаўца і на парламенцкіх, і на прэзідэнцкіх выбарах сведчыць пра заход ягонай палітычнай кар'еры. Апошнім стаў Сяргей Міронаў, які не набраў нават 4%.

Пра «апазіцыйнасць» кандыдатаў сведчыць хаця б той факт, што на наступны дзень на Пушкінскую плошчу выйшаў толькі адзін з іх — Прохараў. Ды і той не стаў у сваім выступленні ставіць пад сумнеў перамогу Пуціна. Затое астатнія выступоўцы не выбіралі словаў, чым наклікалі гнеў Крамля.

### Масква на ваенным становішчы

Арганізатары пратэстаў казалі, што чакаюць на мітынгу «За сумленныя выбары» некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Вядома ж, спадзяваліся, што ўдасца сабраць нашмат больш натоўп, бо на папярэдніх мітынгах даходзіла да 100 тысяч.

Аднак яшчэ ў дзень выбараў на вуліцах Масквы з'явіліся тысячы паліцэйскіх і спецназаўцаў. Былі выведзеныя нават унутраныя войскі. Аўтазакі, ваенныя машыны і грузавікі з пяском. Амаль як у Мінку 19 снежня 2010.

...У прызначаны час на Пушкінскай плошчы, за некалькі кіламетраў ад Крамля, сабралася каля 20 тысяч чалавек. Мітынг мала адрозніваўся ад папярэдніх. Як заўжды, самым запамінальным быў надрыўны выступ юрыста Аляксея Навальнага, якога многія пачынаюць успрымаць як альтэрнатыўнага лідара. Лейтматыў выступленняў быў простым: Пуцін — злодзей, ён скраў нашыя галасы, але мы прыйдзем яшчэ і яшчэ, урэшце пераможам.

Авацыі сарваў кіраўнік Сяргей Удальцоў, які прапанаваў аб'явіць бестэрміновую акцыю пратэсту і паабяцаў, што застанецца на Пушкінскай плошчы. Яго падтрымалі каля тысячы чалавек. Аднак расійская Плошча не прастаяла і гадзіны. Калі большасць дэманстрантаў разышлася, спецназ атакаваў рэшту. Некалькі сотняў чалавек, у тым ліку і Навальны, і Удальцоў былі затрыманыя, астатніх выгналі з плошчы газам.

### Псіхалагічны адказ «Нашыстаў»

Калі ўкраінскія і беларускія ўлады рыхтаваліся змагацца з Майданам і Плошчай дубінкамі і бронетранспарцёрамі, то ў Расіі вырашылі зрабіць хітрэй. Каб прадэманстраваць масавую падтрымку Пуціна, у Маскву звезлі пракрамлёўскую моладзь з арганізацыі «Нашы».

«Нашысты» спалі ў аўтобусах проста на Краснай плошчы, ахоўваючы яе ад «аранжавай заразы». Яе лідары не хавалі — калі апазіцыя створыць намётавае мястэчка, моладзь разгоніць яго без дапамогі паліцыі. І ў дзень выбараў, і назаўтра «нашысты» ладзілі на Манежнай плошчы гіганцкія мітынг з канцэртам, каб павіншаваць Пуціна з перамогай.

Падчас свайго выступлення па твары новага прэзідэнта прабегла сляза, што выклікала смех і абурэнне ў яго ворагаў. «Я не бачыў слёз Пуціна ні пасля захопу Норд-Оста, ні пасля гібелі дзяцей у Беслане, ні пасля выбухаў у Маскве», — было напісана на плакатах удзельнікаў апазіцыйнага мітынгу.

### Улада на шэсць гадоў

Наступнае масавае мерапрыемства пратэсту прызначанае на 10 сакавіка, аднак веры ў тое, што Пуціна ўдасца скінуць, у грамадстве няма. Раз'яднаных апазіцыянераў чакае доўгая і цяжкая барацьба за электарат, праводзіць якую будзе надзвычай цяжка ва ўмовах манаполіі ўлады. Не выключаны і той варыянт, што апазіцыі давядзецца ў маргіналізаваным стане чакаць наступных прэзідэнцкіх выбараў, якія, па новых правілах, адбудуцца ажно праз шэсць гадоў.

**Ягор Марціновіч, Масква**



Затрымліваюць Аляксея Навальнага.




Масква слязам не верыць.



Слёзы Пуціна ў ноч выбараў.

## Андрэй Суздальцаў: З прыходам Пуціна нічога не мяняецца

Палітолаг Андрэй Суздальцаў сустракае гасцей у кабінеце намесніка дэкана Вышэйшай школы эканомікі. Дабрацца да яго нялёгка — трэба аформіць пропуск у адным будынку, пасля праверкі дакументаў трапіць у іншы і, прайшоўшы ахову, адшукаць у бясконцых калідорах патрэбны кабінет.

«Фармальна з прыходам новага прэзідэнта нічога не змяняецца, але адна з задач, пастаўленых у праграме Пуціна, — ажыўленне Адзінай эканамічнай прасторы, пад якую Беларусь атрымала гіганцкія датацыі. Пуцін будзе настойваць, каб падпісаныя пагадненні выконваліся.

Лукашэнка, можа, і хацеў бы іх выконваць, але не можа! Сістэма, створаная ім, у прынцыпе не рэфармуецца. Гэта канструкцыя, пабудаваная па прынцыпе даміно. Адна костка ўпала — пасыпаліся ўсе, і Лукашэнка гэта адчувае. Але нават калі б ён захацеў паспрабаваць ажыццявіць рэформы, яму гэтага не дадуць зрабіць.

Ёсць людзі, якія зацікаўленыя ў рэжыме Лукашэнкі, і яны вельмі моцныя. Гэта і алігархі, і мясцовы бізнэс, і наменклатура, і дырэктары прадпрыемстваў. Іх задавальняе існуючы лад, які дазваляе ім зарабляць».

**ЯМ**

**Андрэй Суздальцаў**

Нарадзіўся ў 1960 ва Уладзівастоку. Скончыў мясцовы гістфак, а ў пачатку 1990-х пераехаў у Беларусь. У 2006 быў высланы з краіны, бо «ставіў пад пагрозу нацыянальную бяспеку Рэспублікі Беларусь». З таго часу жыве і працуе ў Маскве, вядзе сайт PolitOboz.com.

# Хлопцы з граніту

Трэці месяц у Мікашэвічах працягваецца змаганне рабочых за права стварыць **рэальны прафсаюз**.



Алег Стахаевіч скончыў Маскоўскі горны інстытут, але працаваў простым шафёрам. Якраз яго калегі абралі лідарам незалежнага прафсаюза.

**Алег Стахаевіч**

Кіроўца БелАЗа на РУП «Граніт». Лідар мясцовага незалежнага прафсаюза, які адмаўляюцца рэгістраваць. Нежанаты. Мае вышэйшую адукацыю. Чатырохразовы чэмпіён краіны па мнагабор'і сярод рабочых.

Аўтобус да Мікашэвіч з Мінска ідзе чатыры гадзіны. У салоне, апроч нас з фатографам, усяго адзін чалавек, і той едзе да Салігорска. Не самы папулярны маршрут.

Па дарозе, праўда, набіраецца яшчэ троху пасажыраў, якія просяць падвезці да суседніх вёсак. Кіроўца нікому не адмаўляе.

Мікашэвічы — горад на мяжы Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Лунінеччына. Усходні куток раёна, адвечная глуш.

У 1880-я праз Мікашэвічы пралегла палеская чыгунка. Але і гэта не дало асаблівага жыцця станцыі. Уздыму давялося чакаць яшчэ амаль цэлае стагоддзе.

У 1970-я савецкія геолагі знайшлі ў беларускай глыбінцы буйное радовішча прыроднага каменя: скалы, што падніmaліся з-пад зямлі, пад невялікім пластам пяску.

У 1975 пачалася здабыча граніту і перапрацоўка яго на шчабёнку, якая з'яўляецца адным з найбольш папулярных будаўнічых матэрыялаў.

### Бэжавыя агароджы

Сёння насельніцтва Мікашэвічаў складае 13 тысяч чалавек, з якіх больш за 3000 працуе на РУП «Граніт». Хоць у горадзе яшчэ ёсць «Спецжалезабетон», лясная прамысловасць.

Працаваць на «Граніт» едуць з Жыткавіч, Лунінца, Любані, Лахвы. Працаваць даводзіцца па наступным графіку: дзень (ад 8 раніцы да 20 вечара), ноч (ад 20 да 8), два выхадныя. Праца не з лёгкіх. Але заробкі прыстойныя. Прадпрыемства працуе з выгадай, не стратнае.

Тым не менш, уражання багатага горада Мікашэвічы не робяць. Горад сустракае платамі спрэс бэжавага колеру. Яўна, што пафарбавалі не гаспадары, а дзяржава. У дварах шмат дзе ляжыць каменне на будоўлю.

Машын хоць і шмат, але новых адзінкі. На патрыманай «Аўдзі» ля ярка-жоўтага аўтавакзала нас сустракае лідар мясцовых незалежных прафсаюзаў Алег Стахаевіч з паплечнікамі. «Коля. Сяргей», — прадстаўляюцца суразмоўцы. Просяць не называць іх прозвішчы, а Сяргей адмаўляецца і фатаграфавацца. Усе мясцовыя.

Заскокваем да іх у аўтамабіль. «Ну што, як звычайна?» — пытаецца Коля, Алег у знак згоды ківае галавой.

**Забарона пісаць**

Як расказалі нам лунінецкія актывісты, КДБісты адмыслова забаранілі мясцовым выданням пісаць пра сітуацыю са спробай рабочых стварыць рэальны прафсаюз. Аднак праз нейкі час лунінецкая «Інфарм-прагулка», а таксама брэсцкія «Вечерній Брест» і «Брестская газета» ўсё ж выканалі свой журналісцкі абавязак.

### «Сапсаваліся адносіны? Сапсаваліся»

Хвілін праз пяць мы ўжо сядзім за доўгім драўляным сталом у мясцовай кавярні другой нацэначнай катэгорыі. «Ала, хочаш у газету?» — пытаюцца хлопцы ў дзяўчыны за стойкай. Горад маленькі, усе адзін аднаго ведаюць.

«Калі чалавек немясцовы, адразу кідаецца ў вочы», — кажа Алег. Сяргей ідзе папрасіць пацішыць гук ФМ-станцыі, каб можна было пачаць размову.

Стахаевіч апрануты ў чорную куртку, акуратна выпрасаваныя штаны, начышчаныя боты. Маленькая скураная сумка, навюткі мабільны тэлефон. Ніхто з кампаніі не курыць.

«Каша тут даўно варылася, а мы яе проста пачалі есці», — вобразна расказвае Коля.

«Пачалося ўсё не сёння, а гадоў 10 таму, — кажа Стахаевіч. — Старэйшыя маглі цярпець, але моладзь маўчаць не стала. Раней неяк ішлі насустрач рабацягам, а цяпер становіцца ўсё горш і горш». Выглядае, што галоўнай прычынай для сацыяльнага незадавальнення стала якраз хамства, непавага з боку начальства.

Алег быў адным з наймацнейшых спартсменаў прадпрыемства (меў чвэрць стаўкі трэнера), удзельнічаў у спаборніцтвах па мнагабор'і (чатыры разы быў чэмпіёнам рэспублікі сярод рабочых). Тройчы пра яго пазітыўна пісала мясцовая раёнка.

За ўдзельнікамі спаборніцтваў пакідалі поўны заробак, але летась Стахаевічу не аплацілі дзве змены, калі ён выступаў за «Граніт». «Сапсаваліся адносіны? Сапсаваліся», — задае пытанне і сам дае адказ Алег.

«Калі дзесяць гадоў назад кіроўцы БелАЗаў атрымлівалі найбольш сярод рабацяг, то ў снежні вадзіцелі атрымлівалі 3–3,5 мільёна, а зваршчыкі — 4». Кіроўцам БелАЗа Стахаевіч адпрацаваў 11 гадоў, але нядаўна яго звольнілі.




**Граніт**

Магматычная горная парода, адна з найбольш пашыраных у зямной кары.Складаецца ў асноўным з кварцу, палявога шпату (артаклазу), плагіяклазу і слюды. Колер ружовы, шэры, жоўты, белаваты, зеленаваты. Вялікія радовішчы ёсць у Гомельскай і Берасцейскай абласцях. Выкарыстоўваецца як будаўнічы і абліцовачны матэрыял. У Беларусі вырабы з граніту вядомы са старадаўніх часоў.

### АТП і пагрузка

Ядром новай прафсаюзнай суполкі сталі супрацоўнікі аўтатранспартнага парку (АТП) і пагрузкі. Усяго 202 чалавекі.

«Яшчэ ў мінулым студзені ў маёй брыгадзе было 40 заяваў аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза. Потым гэтых людзей неяк закалыхалі, але праходзіць час і нічога не мяняецца. Апошняй іскрай было, калі забралі паўгадзіны рабочага часу. Было пытанне з перапрацоўкай: ці даваць адгулы, ці даплочваць грошы. Вырашылі проста скасаваць гэты час. За год жа гэтыя паўгадзіны вылiваліся амаль у месячны заробак», — апавядае Стахаевіч.




**«Каша тут даўно варылася, мы яе проста пачалі есці»**

Фатаграфаваць прадпрыемства забаронена, хоць на ўездзе ў горад стаіць білборд з усімі «ўнутранасцямі» «Граніта».

Так мікашэвічаўцы пачалі шукаць дапамогі ў інтэрнэце. Выйшлі на незалежны прафсаюз «Беларуськалія». З'ездзілі ў Салігорск, паразмаўлялі. Праз тыдзень , 24 снежня, правялі сход, дзе заявілі пра ўтварэнне незалежнага прафсаюза на «Граніце».

Хлопцы кажуць, што гэтым дамагліся нейкіх саступак, хаця не ў плане стаўлення да сябе: «За снежань на чыгуначных пагрузках паднялі заробкі аж на мільён кожнаму, — кажа Коля. — Некаторыя кіроўцы таксама атрымалі па 6 мільёнаў, астатнія ў межах 4—5». З'явіліся пуцёўкі, якіх раней не было, прэміі за прафмайстэрства. Хаця, кажуць «гранітаўцы», гэта не датычыць тых, хто напісаў заяву на выхад з ФПБ. Яны прэмій як не бачылі, так і не бачаць. «Кажуць, у цябе ж быў залёт», — тлумачыць Коля.

Расказваюць, што ў кіраўніцтва ёсць план пазвальняць усіх падпісантаў. «Супраць мяне напісалі дзве дакладныя, хоць да гэтага не было ніводнай, — кажа Коля. — Кантракт у мяне ў маі сканчаецца».

Стахаевіча звольнілі, каб іншым навука была, мяркуюць «бунтары». Іншай працы не прапанавалі, хаця ў той момант ішоў набор людзей на пятую лінію па здабычы граніту. «Сказалі, няма месцаў». Стахаевіч будзе судзіцца, хоць і не надта верыць у правасуддзе.

«Не я быў ініцыятарам гэтага, а да мяне падбягалі, прасілі дапамагчы. Хлопцы проста ўламалі. Згадзіўся, калі начальнік АТП, з якім я быў у добрых адносінах, закрыў мне публічна рот».

«Накалілі так сітуацыю, што нам далей дарогі няма. Будуць звальняць», — уступае ў размову Сяргей, які амаль увесь час сядзіць моўчкі.

У хлопцаў выразнае беларускае вымаўленне, хаця і размаўляюць па-расейску. «Я беларускую мову яшчэ са школы любіў, — потым прызнаецца Алег. — А цяпер, калі незалежныя сайты чытаеш, то вяртаецца ўсё».

## Не чэкіст, а «злодзей»

Праз пяцьдзясят хвілін выходзім з кавярні, хлопцы хочуць паказаць нам мясцовыя славутасці. Пачынаюць з Дома культуры «Граніт». Кажуць, дырэктар завода захацеў, каб літары на даху свяціліся. Уклалі ў гэта круглую суму — свецяцца. Тут праходзіць адзіная ў горадзе дыскатэка.

За кавярняй стаіць машына міліцыі. «Відаць, нехта зноў ШОС напісаў, — робіць выснову Коля. — Ёсць нейкія «Ультрас», пішуць». Я так і не зразумеў, ці гэта фанаты мясцовага футбольнага клуба, ці нехта яшчэ.

Едзем на канвеер пагрузкі для порта. Так, Мікашэвічы — партовы горад. Тут ёсць штучны канал, што вядзе да Прыпяці, па якім сплаўляюць камень. Цяпер канал замерзлы, на ім толькі чарнеюць сілуэты рыбакоў.



На «Граніце» працуе большасць дарослага насельніцтва Мікашэвіч.

Аховы няма, залазім наверх на канвеер. Знізу на чыгунцы стаяць дзясяткі загружаных шчабёнкай вагонаў. Адны пойдуць праз Лунінец, іншыя на ўсход — на Гомель.

Побач з нашай «Аўдзі» паркуецца невядомы аўтамабіль. Хлопцы насцярожваюцца. Просяць фатографа зняць машыну бліжэй, каб высветліць, каму яна належыць. Вынікаў гэта не дае.

Пакуль злазім, машына ад'язджае некуды бліжэй да партовых будынкаў. Пачынаем ужо падазраваць сачэнне. Здавалася б, варта яго пазбегнуць, але мікашэвічцы смела едуць не ў адваротным кірунку, а да машыны, каб паглядзець чалавеку ў твар. Праязджаем міма «Фальксвагена Турана», але гэта аказваецца не міліцыянер і не чэкіст. Мужчына чакаў кагосьці на дарозе. «Нейкі злодзей», — па-беларуску кажа Коля і смяецца.





Мікашэвічы не робяць уражання заможнага горада. Паліцы мясцовай крамы не вылучаюцца багаццем.

## Ніжэй за мора

Праязджаем праз вуліцы Светлую і Каліноўскага, дзе жывуць мясцовыя начальнікі. Спадарожнікі расказваюць, чый катэдж каму належыць, на якіх машынах ездзяць трэнеры футбольнага «Граніта», а таксама начальнікі прадпрыемства. Горад маленькі... Пабудаваць аднапакаёўку ў Мікашэвічах каштуе дзесьці 25 тысяч даляраў.

Стахаевіч заходзіць праз тэлефон у інтэрнэт, каб на карце паказаць іхні кар'ер, куды мы рушылі. Канечне, уражвае. Здаецца, візуальна ён нават большы, чым плошча горада — 683 гектары. Недзе ўнізе шпарка бегаюць 45-тонныя БелАЗы. Ім даводзіцца апускацца на 140 метраў углыбіню. Гэта ніжэй за ўзровень мора. Каб апусціцца на самае дно, трэба праехаць 17 кіламетраў па серпанціне.

Прадпрыемства дзесьці за пяць кіламетраў ад горада. Штодня раніцай і вечарам рабочых адвозяць на працу спецыяльнымі аўтобусамі. Зімой, калі гаспадары берагуць уласныя аўтамабілі, трапіць у аўтобусы не заўсёды магчыма. Даводзіцца рабіць паўторныя рэйсы.

## Бутэлькі будзем здаваць

Коля зноў вяртаецца да актуальных пытанняў: «Ёсць загад адправіць нас усіх у армію. Быў у ваенкамаце: аналізаў няма — годны і ўсё. У мяне страсенне мозгу было. Нічога, нармальна. Мы ўжо перажываем, каб нам на гэтых зборах не падстроілі якога калецтва». «Я ім кажу застрахавацца на самую вялікую суму», — кажа Сяргей.

Расказваюць, што мясцовае начальства баіцца трапіць у спісы невыязных на тэрыторыю Еўрасаюза, але на рэгістрацыю незалежнага прафсаюза на «Граніце» ўсё адно не ідзе.

Пытаюся: што будзеце рабіць, калі ўсіх пазвальняюць? «Бутэлькі здаваць, металалом. Паедзем да фермераў працаваць, у Альшаны, Расію».

## «Цяпер, братцы, мы з граніту»

Гаворым з гэтымі рабочымі, і ў галаве круціцца радок з баявога верша Цёткі: «Цяпер, братцы, мы з граніту».

Ніхто з палітыкаў на «гранітаўцаў» не выходзіў. «Можа, на выбарах будзеце ўдзельнічаць?» «Не», — кажа Стахаевіч.

«Адзін ужо стаў у нас дэпутатам. Дзмітрый Мядзведзеў з БПС-Банка. Не можа цяпер ужо пяць гадоў на працу ўладкавацца. Хацеў навесці парадак у горадзе. Цяпер во «Сбербанк» назад бярэ, хоць ім і казалі не прымаць на працу. Але там адказалі: нам без розніцы, вы намі камандаваць не будзеце», — такія яны, правінцыйныя рэаліі.

«Звяртаем увагу на нейкія няспраўнасці, а замест гэтага ідуць загады пакараць людзей, а не перабсталяваць тэхніку», — кажа Коля.

Уладкавацца на іншае месца працы таксама не атрымліваецца. Мужчына з брыгады Стахаевіча хацеў сысці ў «Леспрамгас», але там загадалі нікога з незалежных прафсаюзаў не браць.

Простыя хлопцы, без пафасу. І ёсць у гэтых хлопцаў стрыжань, гранітны. Не даюць заднюю перадачу, вераць, што «ўсё будзе супер». Спадзяванні «на сябе, міжнародную супольнасць і закон».

«Не шкадуем, што ўвязаліся», — хорам адказваюць яны. З незалежнага прафсаюза «Граніт» усё яшчэ так ніхто і не выйшаў. У гэтых рабочых ёсць такое рэдкае ў Беларусі разуменне, што ў кожнага чалавека ёсць правы, што гэтыя правы трэба абараняць разам і нельга дапускаць, каб ламалі тваіх сяброў.

**Зміцер Панкавец, Мікашэвічы — Мінск. Фота Сяргея Гудзіліна**



У кар'еры трынаццаць ярусаў. Каб трапіць на дно, БелАЗы праязджаюць 17 км па серпанціне.



Гэта не іншапланетнік, а сапёр.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Падазроны дыпламат для польскага консульства

6 сакавіка праца мінскага консульства Польшчы была **спыненая на дзве гадзіны**.

Як паведамілі карэспандэнту «Нашай Нівы» супрацоўнікі сілавых структураў, што працавалі на гэтым участку, каля 15-й побач з консульствам быў знойдзены падазроны чамаданчык.

Невялікая пластыкавая тэчка чорнага колеру ляжала на ганку аддзялення «Прыёрбанка», што знаходзіцца з консульствам у адным двары.

Тэрыторыя ля польскага прадстаўніцтва была ачэпленая міліцыяй. На вуліцы за кардонам стаялі каля 50 чалавек, якія прыйшлі па візы.

Каля 16.30 прыбыла сапёрная група. Супрацоўнік у спецкасцюме даследаваў чамаданчык каля 10 хвілін. Бомбы ў ім не аказалася.

Службовы сабака, які прыбыў разам з сапёрамі, нават не захацеў падысці да падазронага прадмета. Праца консульства ўзноўленая.

**Сяргей Гудзілін**

# Што робіць у Рыме старшыня КДБ?

Беларускія палітэмігранты **абураюцца**.

28 лютага прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч падпісаў распараджэнне «Аб камандзіраванні старшыні Камітэта дзяржбяспекі Беларусі Вадзіма Зайцава ў Рым». Дата і мэта паездкі невядомыя. Прэс-сакратар КДБ Аляксандр Антановіч адмовіўся паведаміць якія-небудзь падрабязнасці, заявіўшы, што «змест мерапрыемстваў складае службовыя звесткі».

У пасольстве Італіі ў Мінску сказалі, што яны «не выдавалі візу гэтаму грамадзяніну».

Вадзім Зайцаў уключаны ў спіс неўязных у ЕС беларускіх чыноўнікаў, адказных за парушэнні правоў чалавека. Міністру ўнутраных справаў Куляшову раней удалося наведаць Францыю па лініі Інтэрпола.

Беларускія палітэмігранты ўжо заявілі, што будуць дабівацца арышту Зайцава ў Італіі.

**Мікола Бугай**

# Арыштаваны банкір

Старшыня назіральнай рады «Тэхнабанка» **Уладзіслаў Кацарэнка** падазраецца ў махінацыях.

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Беларусі, Кацарэнка падазраецца ў тым, што спрыяў службовым асобам ва ўхіленні ад выплаты падаткаў. Справа распачата па ч. 6 арт. 16 і ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса.

«Тэхнабанк» з’яўляецца адным з найстарэйшых прыватных банкаў. У маі 2010 да «Тэхнабанка» быў далучаны «Беларускі індустрыяльны банк». «Тэхнабанк» уваходзіць у групу сярэдніх беларускіх банкаў з актывамі Br721, 8 млрд на 1 кастрычніка 2011.

Уладзіслаў Кацарэнка — намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. У 2008 ён балатаваўся ў палату прадстаўнікоў на 110-й выбарчай акрузе ў Мінску, быў супернікам Людмілы Граздовай ад АГП.

Тры гады назад быў арыштаваны іншы намеснік старшыні ЛДПБ, дэпутат Мінгарсавета Уладзімір Карунас. Суд прызнаў яго вінаватым у атрыманні хабару і асудзіў на пяць гадоў калоніі з канфісакацыяй маёмасці.



**Ён таксама намеснік старшыні партыі Гайдукевіча.**

**Алег Гардзіенка**

# Цана на «клубнічку» ад Чаргінца зашкальвае

«ЛіМ» перавыдаў скандальную **«Тайну Авальнага кабінета»**, хоць яшчэ не прадаўся тыраж 2001 года.

Як паведамілі ў «ЛіМе», у розніцу ў выдаўца кніга каштуе 100 690 рублёў. Гэта значыць, што ў кнігарнях цана на яе будзе яшчэ большай.

Адметна, што ў мінскіх кнігарнях яшчэ прадаецца першае выданне кнігі, якое выйшла ў 2001-м у «Мастацкай літаратуры». І па смешнай цане — 4550 рублёў. Але гэта не мінімум. Блогер Павел Бераснеў адшукаў гэты ж дэтэктыў за 3450 рублёў. Значыць, не раскупілі. Нават пазнейшае выданне каштуе значна менш — усяго 2 еўра.

У некаторых месцах рамана старшыня афіцыйнага саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец даволі падрабязна апісвае інтымныя сцэны паміж галоўным героем, прэзідэнтам ЗША, і яго жанчынамі.

«Амерыканцы ўпрошваюць мяне чацвёрты год перавыдаць. А калі ўлічыць, што ён перавыдадзены ў дванаццаці краінах і сямнаццаць разоў выдаваўся ў Беларусі і Расіі... Размова ідзе пра тое, што рабіў прэзідэнт Амерыкі.

Вы не знойдзеце там ніводнага факту прыдуманага, калі гаворка ідзе аб «салёнасці». Вы папракаеце: «Ай-ай, што ж там напісаў?!». А я магу сказаць: «Ай-ай, што ж ваш прэзідэнт нарабіў?!» Я пісаў праўду», — так Чаргінец апраўдаваўся за свой твор.

**Кастусь Матушыч**

# Алена Каваленка: Я за Сяргеем, як за каменнай сцяной

Напярэдадні 8 Сакавіка жонка палітвязня расказала захапляльную гісторыю **кахання і рызыкі**.

Палітвязень Сяргей Каваленка ў выніку галадоўкі трапіў у Рэспубліканскую турэмную бальніцу ў Мінску. Алена Каваленка чакае. Моліцца. Верыць у лепшае. Стараецца не плакаць. Жонкі барацьбітоў не могуць сабе гэтага дазволіць.

— Мы знаёміліся з Сяргеем... двойчы! Першы раз — 11 гадоў таму, каля Віцебскага ўніверсітэта імя Машэрава. Я паступала і прыйшла даведацца, ці ёсць маё прозвішча сярод залічаных. У нас з Сяргеем розніца амаль 9 гадоў. Мне тады было 17, а яму 26. Пазнаёміліся, ён праводзіў мяне дадому. Пакінула яму свой тэлефон, ды ён яго згубіў. Але гэта відавочна быў лёс —мы зноў сустрэліся! Адбылося гэта амаль праз два гады — я ўжо скончыла тады другі курс біялагічнага факультэта. Мы з сяброўкай ішлі каля Лядовага палаца. Ён таксама быў з нейкім сябром. І адразу ж мяне пазнаў! І на гэты раз ужо не згубіў мой нумар тэлефона. Сустрэліся. І адразу, на першым спатканні, Сярожа сказаў, што мае намер са мной ажаніцца.

Перад нашым вяселлем Сяргей тры з паловай месяца працаваў у Расіі, на Поўначы. І я яго чакала. Распісаліся мы 18 чэрвеня 2004.

**— Калі не сакрэт, чаму так сталася, што вы ажаніліся двойчы?**

— У кожнай сям'і здараюцца непаразуменні. На жаль, прайшлі праз гэта і мы. Гэта быў чыста эмацыйны крок — падаць заяву на скасаванне шлюбу.

Мы не жылі разам толькі месяц. А потым ужо памірыліся.

А нядаўна, у лютым, мы распісаліся паўторна. Рэгістрацыя гэтага шлюбу адбывалася далёка не ў рамантычных умовах — у пакоі для спатканняў віцебскага СІЗА-2.

Жаніх быў у наручніках. А сведкамі — міліцыянты...

**— Алена, скажы, толькі шчыра, паклаўшы руку на сэрца. Каб ведаць наперад усё, што табе давядзецца перажыць, ці пайшла б ты замуж за апазіцыянера?**

— Я ўжо казала: гэта быў лёс. Дарэчы, ягоныя погляды і перакананні раслі разам з нашай сям'ёй. І я цалкам перайшла на бок Сяргея. Мы з мужам разам раслі — як беларусы, як грамадзяне. Праўда, тое, што беларусы не шануюць сваю родную мову, мяне здзіўляла яшчэ і да знаёмства з Сяргеем.



**— А пра тое, што муж збіраецца падняць сцяг на ёлцы, на такой страшэннай вышыні, ты штонебудзь ведала?**

— Ён мне сказаў, што хоча зрабіць нейкі ўчынак, за 20 хвілін перад тым, як сысці з дому. Але які ўчынак, дзе і калі — я нічога не ведала. Даведалася, калі Сяргея затрымалі. А што гэтая ёлка — 35 метраў, што ён туды здолеў залезці, мяне не здзівіла. У Сяргея добрая фізічная падрыхтоўка. І калі ён штосьці захоча зрабіць, ён гэта зробіць.

**— Я думаю, многім людзям цікава, які Каваленка ў звычайным жыцці, які ён бацька і гаспадар?**

— Як бацька Сяргей вельмі добры. І першыя кнігі, першыя развіваючыя цацкі — усё гэта набываў Сяргей. Ён лічыць, што дзецям трэба з самых ранніх гадоў слухаць класічную музыку. І Валік з першых дзён слухаў Чайкоўскага, Моцарта. Хлопчык у год і сем месяцаў ужо ведаў літары. Англійская мова, маляванне ў школе ранняга развіцця, а потым скрыпка і хакей у Валіка — усё гэта прыдумаў і арганізаваў муж.

А Віка... Яна ж так любіла сядзець у яго на ручках! Ён яе гушкае, а яна ўвесь час глядзіць на яго асаблівым позіркам, як ні на каго іншага. Я яшчэ жартавала: «На цябе больш ніхто не будзе глядзець такімі закаханымі вочкамі, як дачка».

Між іншым, дачка цяпер вельмі добра есць — падбірае ўсё! Я нават думаю: можа, гэта нешта такое на ментальным узроўні адбываецца? Дзіця есць і за сябе, і за бацьку, каб таму хоць трошкі лягчэй было... Віка ўвогуле вельмі падобная да Сяргея — гэткая ж светлавокая і светлавалосая. А Валік больш да мяне падобны. Бацькавы толькі «ямачкі». Сяргей заўсёды хацеў шмат дзяцей, хаця б трое. Гэта яго такая праграма-мінімум. У гэтым мы з ім на пачатку разыходзіліся. А зараз, калі б было ўсё добра, можа, я і нарадзіла б яшчэ адно дзіця...

Сяргей мне казаў: «Розум жанчыны ў тым, каб умець хаця б знешне падпарадкавацца мужу. А глупства — быць вышэй за яго». Як ні круці, гэта так.

Увогуле, пра Сяргея магу сказаць адно: за ім я сябе адчуваю, як за каменнай сцяной. Ён заўсёды абароніць, адстаіць і сваю жанчыну, і свае правы.

**— Алена, твой адказ на гэта пытанне прадказальны. Але аб чым ты зараз больш за ўсё марыш?**

— Мару, каб Сяргей хутчэй быў з намі. Каб з ягоным здароўем было ўсё добра. Каб наша сям'я годна прайшла праз усё гэта. Гэтага жадае і сам Сяргей.

На спатканні ён мне сказаў: «Я нічога зараз так не хачу, як быць са сваёй сям'ёй».

**Гутарыла Яня Ільіна, news.vitebsk.cc**

**Чытайце гутарку цалкам на NN.BY**

**Сяргей Каваленка**

Палітвязень, сядзіць за вывешванне нацыянальнага сцяга на 35-метровай навагодняй яліне. 16 студзеня адзначыў 37 гадоў. Нарадзіўся ў Віцебску. Скончыў Віцебскі політэхнічны тэхнікум, працаваў прадпрымальнікам-будаўніком.

**Алена Каваленка**

працавала настаўніцай хіміі ў СШ №31 Віцебска. Яна расказвае: «Прыйшоў да мяне чалавек з органаў і стаў культурна так пагражаць: «Паўплывайце на свайго мужа, а то можаце і без працы застацца». Аднак са школы я сышла сама. Настаўнікам мала плацяць, і работа гэта вельмі нервовая. Працавала пашпартысткай, а потым, калі Сяргей здзейсніў свой учынак — сцяг на ёлцы, пайшла ў ЖЭУ дыспетчарам. І працавала там да дэкрэтнага».

# Адвакат Дашкевіча падае ў суд на КДБ

Супрацоўнікі спецслужбы больш за год **«вывучаюць» пашпарт** палітвязня.

Праз адсутнасць дакумента ён не можа ажаніцца. Пра акалічнасці справы і вынік сустрэчы з ім адвакаткі расказала нявеста Змітра Наста Палажанка.

**«Наша Ніва»: Вы атрымалі ліст ад Змітра, першы пасля яго трохтыднёвага знаходжання ў ШІЗА. Пра што ён?**

**Наста Палажанка:** Напісаў, каб не хваляваліся. Усё, што наканавана вытрываць, ён вытрывае. Але адзначыў, што спачатку недаацаніў узровень маральных здзекаў, праз якія даводзіцца праходзіць многім палітвязням, — сістэма «ўдасканальваецца». Але ліст бадзёры. Хаця заўважна, што ён рыхтуецца да далейшых праблемаў.

**«НН»: Ён ізаляваны ў калоніі?**

**НП:** Так. Зміцер знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу. Зрэшты, хутка зноў могуць вярнуць у ШІЗА. 1 сакавіка з ім сустракалася адвакатка. Яны размаўлялі ў далёка не канфедэцыйнай абстаноўцы. Абмяркоўвалі пытанні выключна юрыдычнага характару. Яму нельга было расказаць не толькі пра навіны ў краіне, але нават пра побыт яго таты.

**«НН»: Маці Эдуарда Лобава і жонка Змітра Бандарэнкі заявілі, што палітвязняў жорстка абмежавалі ў тэмах, на якія ім можна пісаць. Па апошнім лісце Змітра не адчулі падобнага?**

**НП:** Не. Мы і так не ўсё абмяркоўваем у лістах, каб яны даходзілі. Але вось тое, што з адвакатам сталася настолькі строга, то гэта сітуацыя ўзнікла ў апошні месяц.

**«НН»: У Змітра сёлета сканчаецца тэрмін зняволення. Ён пра гэта ўзгадвае?**

**НП:** У турме жывеш, як правіла, сённяшнім днём. І мы баімся, каб гэты тэрмін не павялічыўся. Мы яго, безумоўна, чакаем дома, але ён і сам не выключае магчымасці новай крымінальнай справы. Я чакаю, што ў краіне нешта зварухнецца і я пабачу яго раней, ці, прынамсі, не пазней, чым праз 9,5 месяца.

**«НН»: Пашпарт Змітру так і не пераслалі ў калонію?**

**НП:** Не. І на гэтым тыдні будзем падаваць у суд на супрацоўнікаў КДБ, бо за паўгода толькі на адно хадайніцтва быў адказ. Мы патрабавалі, каб з КДБ пашпарт Змітра пераслалі ў калонію. У адказе гаварылася, што пашпарт канфіскаваны ў межах крымінальнай справы і знаходзіцца ў КДБ, будзе накіраваны згодна з нормамі заканадаўства. Але паводле якога заканадаўства, у якія тэрміны — ні слова. Мы пачалі пісаць у Генпракуратуру. Але адтуль усё перанакіроўвалі ў КДБ — такі бермудскі трохкутнік: ніводнага адказу.

**Сяргей Макарэвіч**




**Наста Палажанка (справа) і Святлана Калінкіна сталі лаўрэаткамі прэміі імя Святланы Навумавай.**

**Зміцер Дашкевіч**

асуджаны на два гады калоніі агульнага рэжыму. Яго затрымалі 18 снежня 2010. Прызналі вінаватым у тым, што ён разам з Эдуардам Лобавым збіў двух мінчан.

**Наста Палажанка**

асуджана па справе «масавых беспарадкаў» 19 снежня 2010 на год умоўна з адтэрміноўкай на адзін год.

# З’явіўся музей піва

**Завод «Аліварыя»** вырашыў стварыць музей.




За першыя два дні працы музея кіраўніцтва атрымала 60 заявак на экскурсіі.

Бровар узнік у 1864, у год задушэння паўстання Каліноўскага, калі мяшчанка Рохля Фрумкіна атрымала ад імператара Аляксандра ІІ дазвол на заснаванне.

Кажуць, стварэнне бровара жанчынай — вялікая рэдкасць.

Сам будынак бровара быў драўляным і знаходзіўся на цяперашняй вуліцы Багдановіча, і за год прадукаваў 85 тысячаў вёдраў піва.

Праз гісторыю існавання аднаго завода можна ўбачыць гісторыю апошніх 150 гадоў: ад табеля штрафаў для працоўных пачатку XX ст. да перайменавання падчас Другой сусветнай у нямецкі бровар (надпіс Minsk Bier на сцяне захаваны), і далей да часоў савецкіх, пра якія апавядаюць афіцыйныя фотаздымкі таго часу з подпісамі кшталту «Рыдлёўшчыцы-саладоўшчыцы Гмыза і Іванова перадаюць досвед пералапачвання соладу астатнім працоўным».

**Юрась Ускоў**

**Тры факты пра «Аліварыю»**

**1.** «Аліварыя» можа паспрачацца з «Кока-колай» — пакуль не зразумела, у каго раней у рэкламе стаў фігураваць мядзведзь. Але выглядае на тое, што піўны завод «Беларусь» апярэдзіў «Колу» гадоў на пяць.

**2.** Напрыканцы XIX ст. існавала правіла: калі працоўным выдаюць піва, яго трэба выпіць на тэрыторыі завода. Цяпер, зразумела, наадварот.

**3.** Ад 1864 да сённяшняга дня праца завода ні разу не перапынялася.

# Алег Воўчак зняўся ў фільме НТВ

У дакументальна-мастацкай стужцы «Серп і Молах» яму дасталася **роля НКВДыста**.



Прэм’ера адбудзецца восенню 2012. «Серп і Молах» прысвечаны сумным падзеям 30-х гадоў XX стагоддзя: калектывізацыі, масавым рэпрэсіям.

Праваабаронца Алег Воўчак узгадвае, што сям’я яго айчыма, Аляксандра Засулевіча, таксама патрапіла пад рэпрэсіі.

«Мы здымаліся цэлы дзень у халодным лесе, але ў нас заўсёды была магчымаць папіць гарачай гарбаты, пасядзець у аўтобусе. І я на імгненне ўявіў, як сябе пачувалі людзі, калі іх прывезлі на голыя, неабжытыя мясціны без ежы, вопраткі і жылля», — кажа Алег.

Воўчак — вядомы праваабаронца. Былы следчы, кіраўнік зарэгістраванай ва Украіне «Прававой дапамогі насельніцтву». Удзельнік вайны ў Афганістане, ён дапамагае палітвязню Мікалаю Аўтуховічу.

**AP**



# «Будзьма» прапануе замяніць бусла на цмока

У якасці **нацыянальнага сімвала**.

Кампанія «Будзьма» збіраецца папулярызаваць цмока сярод беларусаў. Алена Макоўская верыць, што праца з турфірмамі, уладальнікамі аграсядзібаў, прадстаўнікамі культурных установаў дасць плён: «Вобраз цмока мае перспектыву».

Музыка Алег Хаменка скептычна заўважае: з такім жа поспехам новым брэндам мог бы стаць адзінарог ці русалка, якія таксама прысутнічаюць у беларускім фальклоры. Традыцыйна сімвалам Беларусі лічыцца рыцар «Пагоні» — святы Юры, пераможца цмока.

**Аксана Рудовіч**

**In memoriam**

# Эдуард Зарэмба

Легендарны футбаліст памёр на 75-м годзе жыцця. Да апошніх дзён ён працаваў выкладчыкам фізкультуры ў Мінскім радыётэхнічным каледжы.

З пакаленнем Зарэмбы, Міхаіла Мустыгіна, Эдуарда Малафеева, Хуана Усатэры звязаныя першыя поспехі айчыннага футбола. У 1963 мінскае «Дынама» заваёўвае бронзу савецкага першынства, а праз два гады даходзіць да фіналу Кубка.

Зарэмбу называлі каралём падкату. Настолькі добра ён выконваў гэты прыём. Адзяваў майку зборнай СССР, у якой у той час выступалі Леў Яшын, Валеры Варонін, Валянцін Іваноў, Галімзян Хусаінаў.

«Я не паважаю гэтую зборную», — казаў ён пра каманду Бернда Штанге. Да канца жыцця захаваў вернасць мінскаму «Дынама».

**Зміцер Панкавец**





**Камертон Сяргея Ваганава**

## Невядомая гісторыя

Гісторык Анатоль Тарас выдаў чарговую «Невядомую гісторыю» пад назвай «Партизаны СССР. От мифов к реальности». У кнігі ёсць аўтар, нехта Сяргей Захарэвіч, але, як і пры ранейшых выданнях, ініцыятарам гучнага праекта, яго стваральнікам ды натхняльнікам з’яўляецца Тарас, да таго ж у сціплай якасці рэдактара. І, як заўсёды, раздае інтэрв’ю, на гэты раз «Салідарнасці», у якім сцвярджае, што «ўся гісторыя партызанскага руху СССР — адзін вялікі міф».

Менавіта так — «уся» і «адзін».

Я не стаў бы зноўку пісаць пра «творчую манеру» Анатоля Тараса, каб не хударлявая постаць Хведзі Бачылы...

Пра Хведзю я ўспомніў, калі дазнаўся ад Тараса, што знакамітая «рэйкавая вайна» была «тыповым савецкім ашуканствам».

Хведзя быў фотакарэспандэнтам газеты «Чырвоная змена». Журналістаў, гавораць, ногі кормяць. Фотажурналістаў — асабліва. Хведзю «карміла» адна нага. Другую нагу «ашуканец» Бачыла згубіў падчас падрыву варожага эшалона. І самым «ашуканскім чынам» у 20 гадоў атрымаў найвялікшы па тых часах ордэн Леніна. Пра што, дарэчы, можна было даведацца амаль выпадкова. Вельмі сціплым чалавекам быў Хведар Бачыла...

Якую ж «невядомую гісторыю» пра партызан паведаў нам «вядомы гісторык»? Такую невядомую, што Хведзя са сваімі эшалонамі, адной нагой і ордэнам выглядае калі не ашуканцам, дык нейкай недарэчнасцю, гістарычнай выпадковасцю. Між тым, калі верыць самому Тарасу, нічога невядомага ў кнізе няма, уся яна «пабудавана на выкарыстанні ўжо надрукаваных матэрыялаў... у іншых кнігах, у часопісных артыкулах, у газетах, у інтэрнэце... Новай з’яўляецца толькі аўтарская канцэпцыя, на падставе якой гэтыя матэрыялы зведзены...»

**Прымітыўная кан’юнктуршчына выдаецца за «новую канцэпцыю»**

Згодна з гэтай мудрагелістай «канцэпцыяй», беларускія партызаны, аснову якіх складала, па Тарасу, наменклатура, толькі і рабілі, што адседжваліся ў лясах і балотах, менш за ўсё ваявалі, дасылаючы ў Маскву ліпавыя данясенні, бязлітасна рабавалі і знішчалі мірнае насельніцтва, правакавалі немцаў на вынішчэнне вёсак і хутароў...

І ўся гэта, прабачце, прымітыўная кан’юнктуршчына выдаецца за «новую канцэпцыю» быццам бы невядомай айчыннай гісторыі. Хаця «канцэпцыя» гэтая яшчэ горшая і больш шкодная за камуністычную, ды і лукашэнкаўскую, калі мець на ўвазе пераемнасць рэжымаў. Бо партыйныя гісторыкі былі ўсё ж навукоўцамі — працавалі ў архівах, з дакументамі, сведкамі... А потым да справы далучаліся ідэолагі, хаваючы найбольш пачварныя з’явы савецкай беларускай партызанкі, ператвараючы крывавую народную трагедыю ў ганебны прапагандысцкі жупел...

Ва ўзгаданым інтэрв’ю Тарас прадбачліва залічыў усіх, каму не падабаецца яго новая «канцэпцыя», у «савецкія патрыёты», у тых, хто «дасюль атаясамлівае сябе не з Беларуссю, а з... Савецкім Саюзам...»

Не ведаю, з кім атаясамлівае сябе «вядомы гісторык», але толькі не з Беларуссю. Бо немагчыма быць сапраўдным патрыётам Беларусі і адначасова адмаўляць, па сутнасці, удзел беларусаў у еўрапейскім, нават сусветным Супраціве фашызму...

...«Мы лічым, — гаворыць Тарас, — што ўсе 70 гадоў савецкай улады трэба выкрасліць з памяці. Забыць назаўсёды...»

Пачэсная задача для гісторыка — забыць...

Між іншым, гэта азначае забыць і Хведара Бачылу.

Але я не магу забыць, выкрасліць з памяці, як ён перашкодзіў бандыцкаму згвалтаванню дзяўчыны. Ніхто ў тым аўтобусе не ўзняўся з месца, толькі інвалід вайны, былы партызан Бачыла. Не цярпеў аніякага гвалтавання. За што і атрымаў напільнік у жывот...

Дактары выратавалі яго, але і тады, на пачатку 70-х, мала хто ведаў пра гэту гісторыю. Мо толькі родныя, сябры ды калегі...

Сапраўды невядомая гісторыя. Сапраўды...

*kamerton_41@mail.ru*

# Самыя сэксуальныя мужчыны Беларусі

Вядомыя беларускі называюць тых, хто вымушае іх сэрцы біцца мацней. **8 сакавіка прысвячаецца.**

Што такое сэксуальнасць? Як вызначыць крытэры аднясення чалавека да сэкс-сімвала? Ці гэта толькі накачаныя мускулы, «квадрацікі» на жываце ды выгляд Алена Дэлона? Ці ўсё ж унутраныя якасці чалавека: мужнасць, розум, кемлівасць?

Калі ж паспрабаваць вывесці «формулу сэксуальнасці», атрымаем наступнае: знешняя прыгажосць, якасці характару, памножаныя на вядомасць.

**Сэкс-сімвал: знешняя прыгажосць плюс лідарскі характар, памножаныя на вядомасць »**



Мартысевіч: Севярынец — гэта проста феерыя сэксу.

### Маладосць і запал Ганчарэнкі

Журналістка Марына Коктыш, што «адмовіла» Лукашэнку на ўсю краіну, налічыла некалькі прывабных беларусаў. Па-першае, экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранку за «нешта незразумела прыцягальнае, жарсткае, палкае».

Па-другое, рэжысёра Купалаўскага тэатра Аляксандра Гарцуева як «узор «некрыклівай» сэксуальнасці». Затым — Уладзімір Някляеў, які так тэмпераментна чытае вершы, што здольны ўскруціць галаву любой без выключэння жанчыне.

Нарэшце, за «маладосць, запал і ўсё астатняе» ў спіс сэкс-сімвалаў Коктыш патрапіў 34-гадовы трэнер барысаўскага БАТЭ Віктар Ганчарэнка.

### Назаву Кашчэева — Булка пакрыўдзіцца

А вось тэлевядучая Люся Лушчык так і не вызначылася, каго назваць самым-самым. «Назаву Кашчэева — Булка пакрыўдзіцца», — кажа дзяўчына. І дадае, што «ў нас шмат прывабных мужчын. Адукаваных, выхаваных, надзейных. Беларускім жанчынам пашанцавала!».



Віктар Ганчарэнка — трапіў у спіс за «маладосць, запал і ўсё астатняе».

### Самы сэксуальны — мой муж!

Жонкамі сэкс-сімвалаў лічаць сябе вядучая Тамара Лісіцкая, спявачка Руся, кіраўніца партала Diva.by Алена Каравец. Іх спадарожнікі жыцця не саступаюць сваім палавінкам па папулярнасці.

Мяркуйце самі: муж Лісіцкай — праграмны дырэктар «Радыус-ФМ» Глеб Марозаў. Багдан Каравец — вядомы IT-нік і рэкламшчык.

Спадарожнік жыцця Русі Юрый Маціюн — таленавіты фатограф, які «шчыра закаханы ў Беларусь і мяне», як лічыць спявачка. Застаецца толькі па-добраму ім пазайздросціць.

Зрэшты, Лісіцкая не абмяжоўваецца мужам, дадаўшы ў спіс музыкаў Яўгена Пугача (гурт J-Mors), Змітра Вайцюшкевіча, Піта Паўлава ды тэнісіста Макса Мірнага.



Беларуска-шведскі сэкс-анёл Стэфан Эрыксан.



Жанчыны любяць Вайцюшкевіча.

### Каліноўскі і Выліваха

Свайго мужа, музыку, гісторыка і літаратара Яраша Малішэўскага, паэтка Аксана Спрынчан называе «сэкс-рэальнасцю».

«Калі б я жыла раней, мой сэкс-сімвал быў бы Кастусь Каліноўскі, калі б сталася літаратурнай гераіняй — Гервасій Выліваха [персанаж аповесці Караткевіча «Ладдзя Роспачы» — «НН»], — разважае паэтка.

«Каб сэксуальнае жыццё было болей разнастайным, чытаю і слухаю іншых сэксуальных мужчын — Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Някляева, Алезіса Дзямідовіча, Піта Паўлава... А як упрыгожвае жыццё беларуска-шведскі сэкс-анёл Стэфан Эрыксан!»



Тамара Лісіцкая лічыць самым сэксуальным свайго мужа.

### Недасягальны Севярынец

Самы сэксуальны беларускі мужчына — гэта, безумоўна, Павал Севярынец, лічыць літаратарка Марыя Мартысевіч. Чаму? Бо сэкс-сімвал не павінен быць дасягальны.

«Гэта проста феерыя сэксу. Нашага цнатлівага беларускага сэксу».

### Лукашэнка сказаў — Лукашэнка зрабіў

А вось для цыркачкі Ганны Бандарчук (вядучай праграмы «Ноч з Ганнай Бонд» на БелМузТБ) мужчынскі сэкс-сімвал — Аляксандр Рыгоравіч. Так, менавіта Лукашэнка, а не які-небудзь Ціхановіч.

Чаму? Усё проста: «у арміі служыў — ужо прыемна. Цяперашнія туды асабліва не ходзяць», — кажа Бонд. «Моцны духам, высокі, прыгожы. Сказаў — зрабіў. Кожнай бы па такім мужчыну — і ў хаце быў бы поўны парадак». Артыстка не шкадуе кампліментаў, каб апісаць свайго «сэкс-сімвала».

Што ж, кожнаму — сваё. Ці, дакладней, кожнай — свой.

**Аксана Рудовіч**

# Справа тэракта: застаўся доўгі шлейф

**Што стала з абвінавачанымі ў халатнасці ды іншых злачынствах?**

Пасля леташняга выбуху ў мінскім метро Аляксандр Лукашэнка і прадстаўнікі сілавых ведамстваў заявілі пра шэраг магчымых крымінальных спраў.

«Калі б не галавацяпства асобных, мы б іх [падазраваных у выбуху] затрымалі раней, яшчэ па выбуху 3 ліпеня, — заўважыў Лукашэнка 16 красавіка 2011 пра затрыманне міліцыянтаў, праз чыю халатнасць не ўдалося прадухіліць выбух. — Ёсць факты, у бліжэйшы час скажам, як гэта стала магчыма, і там ёсць элемент найпоўнай расхлябанасці. Каго? Яны затрыманыя, я сказаў іх дапытваць як злачынцаў». Ён удакладніў: «Як чалавек з вялізнай торбай ў 20 кг нясе выбухоўку і ўсё гэта праходзіць міма міліцыі, міма работнікаў метро?»

Паведамілі, праўда, не ў бліжэйшы час, а значна пазней.

## Распаўсюджвальнікаў правакацыйных чутак, магчыма, і не шукалі

У Віцебску судзілі супрацоўніка абласнога УУС Руслана Сініцына, які не ўзяў адбіткі пальцаў у Дзмітрыя Канавалава. Эксперт не толькі не правёў дактыласкапію, але і выдаў маладому чалавеку даведку аб тым, што той прайшоў такую працэдуру раней. І такім чынам прызыўнік не быў правераны на датычнасць да выбуху ў Мінску 4 ліпеня 2008.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, менавіта адбіткі пальцаў Канавалава былі выяўлены на выбуховым прыстасаванні, якое не спрацавала ў 2008-м. Суд над Сініцыным адбываўся ў закрытым рэжыме. У выніку міліцыянера асудзілі на 3 гады пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення.

Другі міліцыянт, якога абяцалі прыцягнуць да адказнасці, — супрацоўнік аддзела ўнутраных спраў метро. Генпракуратура пасля выбуху паказала відэа, на якім міліцыянт размаўляе з супрацоўніцай метро, калі побач з ім бесперашкодна праходзіць чалавек з вялікай сумкай. Суд прызнаў, што гэта быў Дзмітрый Канавалаў, які праносіў выбухоўку.

«Будзе дадзена прававая ацэнка дзеянням тых, хто павінен быў прадухіліць магчымасць праносу выбуховага прыстасавання ў метрапалітэн, — заяўляў тады міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў. — Калі браць па Мінску, станцыя метро «Фрунзенская» — гэта пакуль адзін чалавек».

Але журналістаў пра вынікі праверкі так і не праінфармавалі. Вядома толькі, што з пасады былі знятыя начальнік мінскай міліцыі Леанід Фармагей і начальнік упраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Вячаслаў Яўстаф'еў.

Карэспандэнт «НН» звярнуўся ў шэраг праваахоўных органаў, але ні ў адным не змаглі сказаць, як пакаралі міліцыянта са станцыі «Фрунзенская». У пракуратуры Мінска адзначылі, што не маюць дачынення да гэтай справы. А начальнік аддзела ўнутраных спраў метро перанакіраваў у аддзел інфармацыі ГУУС Мінгарвыканкама. Кіраўнік аддзела Аляксандр Ластоўскі адзначыў, што не валодае інфармацыяй, бо гэта не справа яго ведамства. Ён адзначыў, што функцыі расследавання крымінальных спраў перайшлі да Следчага камітэта Беларусі. Нягледзячы на тое, што СК пачаў працаваць толькі з 1 студзеня.

Ніхто не панёс пакаранне і за распаўсюджванне чутак аб выбуху аўтобуса маршруту №100 праз дзень пасля тэракта ў сталіцы. Прадстаўнік Дзяржсакратарыята Рады бяспекі Беларусі ў інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс» яшчэ летась, у красавіку, заявіў, што затрымалі траіх распаўсюджвальнікаў правакацыйных чутак. «Усе трое — жыхары Мінска — былі затрыманыя і змешчаныя ў следчы ізалятар за тое, што з дапамогай інтэрнэт-форумаў і сацыяльных інтэрнэт-сетак распаўсюджвалі загадзя лжывыя звесткі пра нібыта ажыццёўленыя ў беларускай сталіцы тэрарыстычныя акты: выбухі аўтобусаў, аўта- і чыгуначнага вакзалаў». Супрацоўнікамі спецслужбаў «ужо ўстаноўлены асобы яшчэ дзесяці распаўсюджвальнікаў ілжывай інфармацыі, у самы бліжэйшы час у дачыненні да іх будуць прынятыя адпаведныя меры».

Хаця ні паказальных судоў, ні хаця б вынесеных папярэджанняў грамадскасць так і не ўбачыла. А як аказалася, сталічная пракуратура, у кампетэнцыю якой гэта ўваходзіла, не займалася нават расследаваннем. «Следчым аддзелам пракуратуры горада Мінска праверка па ўказаных фактах не праводзілася». Такі адказ атрымала Рэдакцыя на свой запыт у праваахоўныя органы. Гэта значыць, што заявы аб затрыманых распаўсюджвальніках чутак былі ўсяго толькі спробай збіць хвалю чутак.



**«Як чалавек з вялізнай торбай нясе выбухоўку і ўсё гэта праходзіць міма міліцыі?»**

**Сяргей Макарэвіч**

# У катастрофе цягнікоў у Польшчы абвінавацілі дыспетчараў

**Пацярпела больш за сто чалавек, паўсотні трапіла ў шпіталь. Гэта найбуйнейшая ў краіне катастрофа ад 1990.**


NEWSWEEK.PL

Трагедыя здарылася 3 сакавіка ў 21.15 каля мястэчка Шчэкацінаў, што за 200 км ад Варшавы. Сутыкнуліся цягнікі Перамышль — Варшава і Варшава — Кракаў. У аварыі загінулі 16 чалавек, з іх 3 — машыністы. Пацярпела больш за сто чалавек, паўсотні трапіла ў шпіталь. Сярод загінуўшых — грамадзянкі ЗША і Расіі, сярод параненых — грамадзяне Малдовы, Украіны і Чэхіі. Беларусы, паводле папярэдняй інфармацыі МЗС, у цягніках не ехалі. Хоць акурат на цягніку з Кракава многія нашы суайчыннікі часта вяртаюцца з гарналыжных курортаў Татраў.

Паводле інфармацыі кіраўніцтва чыгуначнай кампаніі PKP, цягнікі рухаліся ў процілеглых напрамках: цягнік з Варшавы выехаў не на свой шлях, што і прывяло да сутыкнення.

Удар быў такой моцы, што ў цягніку з Перамышля былі цалкам знішчаныя лакаматыў і тры першыя вагоны, у цягніку з Варшавы — лакаматыў і часткова першы вагон. У суме цягнікі везлі 11 вагонаў, у якіх ехалі каля 360 пасажыраў.

Катастрофа выклікала велізарны рэзананс у Польшчы. Польская прэса піша пра праблемы мясцовай чыгункі, нагадваючы, што краіна займае першае месца ў Еўрасаюзе па колькасці ахвяр на рэйках.

У панядзелак былі затрыманыя два супрацоўнікі чыгункі — дзяжурныя станцыі чыгуначнага транспарту, што складае рух цягнікоў на гэтым маршруце.

**Сямён Печанко**

**Трагедыі ў Крыжоўцы 35 год**

2 мая 1977 на станцыі Крыжоўка (маршрут Мінск—Маладзечна) пасажырскі цягнік пратараніў два апошнія вагоны электрычкі, якая ў той момант стаяла на пероне. Па афіцыйнай інфармацыі, у выніку сутыкнення загінулі 22 чалавекі, былі паранены 80. Па выніках расследавання за дапушчаныя памылкі былі пакараныя турмой некалькі супрацоўнікаў чыгункі.

## Сцісла

**Школьніцы скончылі жыццё самагубствам**

Трупы стрыечных сясцёр, навучэнак 9 і 10 класа, знайшлі павешанымі 4 сакавіка ў кватэры адной са знаёмых іх бацькоў, паведамілі ў Следчым камітэце. Знаёмая распавяла, што дзяўчаты напярэдадні папрасілі ключы ад кватэры, каб там пераначаваць пасля дыскатэкі. Бацькі пра гэта не ведалі і, калі сёстры не вярнуліся раніцай дадому, пачалі непакоіцца ды звярнуліся ў Клічаўскі РАУС. Па гэтым факце праводзіцца праверка. Следчыя апытваюць аднакласнікаў, настаўнікаў і родных.

**Дзяўчына звалілася на рэйкі метро**

3 сакавіка на станцыі метро «Партызанская» на рэйкі з-за дрэннага самаадчування ўпала 24-гадовая жыхарка Мазыра. Яе паднялі за тры хвіліны. У бальніцу яна была дастаўлена з чэрапна-мазгавой траўмай лёгкай ступені, закрытай траўмай жывата.

Нагадаем, што 25 студзеня 18-гадовы навучэнец аднаго з мінскіх ліцэяў таксама ўпаў на рэйкі з платформы станцыі метро «Каменная Горка». З ЧМТ быў дастаўлены ў бальніцу.

**У Мінску сутыкнуліся трамваі**

Здарэнне адбылося 2 сакавіка на прыпынку «Уральская» на вуліцы Даўгабродская. Абодва трамваі рухаліся ў бок Трактарнага завода. Адзін з іх стаяў на прыпынку, другі сутыкнуўся з ім ззаду. Паводле слоў прадстаўніка ДАІ, аварыя адбылася ад няўважлівасці кіроўцы другога трамвая — жанчына своечасова не затармазіла. У выніку аварыі пацярпелі дзве жанчыны, 1942 і 1960 г.н. Трамваі атрымалі нязначныя пашкоджанні.

**КМ**

# Прэмію Гедройца атрымаў Касцюкевіч

**Другі прыз у Альгерда Бахарэвіча, трэці — у Андрэя Федарэнкі, які на цырымонію не прыйшоў.**




3 сакавіка, у Міжнародны дзень пісьменніка, быў вызначаны пераможца Літаратурнай прэміі імя Гедройца. Гэта новая прэмія, заснаваная сёлета Беларускім ПЭН-цэнтрам, незалежным Саюзам пісьменнікаў у супрацоўніцтве з пасольствам Польшчы, мае шанцы стаць беларускім «Букерам». Яна даецца за найлепшую беларускамоўную кнігу прозы, выдадзеную за год.

Усяго журы разглядзела 21 кнігу 2011 года. У шорт-ліст трапілі шэсць: кінараман-фарс Уладзіслава Ахроменкі «Тэорыя змовы», зборнік радыйных эсэ Альгерда Бахарэвіча «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча», кніга апавяданняў Паўла Касцюкевіча «Зборная Рэспублікі Беларусь па негалоўных відах спорту», раман Артура Клінава «Шалом», гістарычна-дакументальнае расследаванне Аляксандра Лукашука «След матылька. Освальд у Мінску» і раман-эсэ Андрэя Федарэнкі «Мяжа».

## Нечаканы выбар

Букмекеры мінскіх літаратурных салонаў прымалі найбольшыя стаўкі на лукашукоўскі «След матылька» і клінаўскі «Шалом». У выніку ж гэтыя кнігі нават не трапілі ў тройку пераможцаў. А атрымаў прэмію аўтар твораў кароткага жанру і сакавітага гумару Павал Касцюкевіч.

Нам удвая прыемна, што пераможа пісьменнік, які дэбютаваў у «Нашай Ніве» і там апублікаваў асноўную частку апавяданняў, што склалі кнігу-пераможцу.

Павел Касцюкевіч належыць да тых рэдкіх людзей, якія з радзімы не з'ехалі, а вярнуліся ў яе. Мала хто ведае, што ён толькі ў 2007 рэпатрыяваўся ў Беларусь з Ізраіля.

Хоць аўтар стаяў на сцэне трохі ашалелы ад поспеху, гумар яму не здрадзіў і тут. «Гэта другая мая прэмія. Першую я атрымаў у трэцім класе за трэцяе месца ў конкурсе малюнкаў крэйдай на асфальце», — расказаў элегантны, у матыльку, лаўрэат пад воплескі аўдыторыі.

Другі поспех у жыцці Паўла яўна больш важкі за першы. Грашовае вымярэнне прэміі Гедройца склала 105 мільёнаў рублёў.

Гэта выдатнае спрыянне беларускай літаратуры. Забяспечыў яго «Сомбелбанк» — беларускі банк з удзелам польскага капіталу.

> « Частку прэміі лаўрэат перадае сям'і палітвязня Каваленкі




PHOTO BYMEDIA.NET

Грашовае вымярэнне прэміі склала 105 мільёнаў рублёў.

## In absentia

Ідэя заснаваць такую прэмію належыць паслу Польшчы ў Беларусі Лешаку Шарэпку. Прыкра, што ён не змог прысутнічаць на цырымоніі: у аўторак лукашэнкаўцы папрасілі яго выехаць з Беларусі на кансультацыі. Аднак словы падзякі яму гучалі шчырыя, ад многіх. Сапраўды, лепшы стымул для беларускай прозы, чым такая прэмія, цяжка сабе ўявіць.

Рэалізацыя ідэі пасла была няпростай для журы. Выразнага лідара сярод кніг 2011 года не было (гэта пацвердзілі інтэрнэт-апытанкі, дый прызнаў і вядоўца цырымоніі, паэт Андрэй Хадановіч). Параўнаць блокбастар-кінасцэнар Ахроменкі «Тэорыя змовы» з мак'юментары Лукашука пра жыццё Освальда ў Мінску аб'ектыўна немагчыма, як і супаставіць абедзве гэтыя кнігі з кароткай прозай Касцюкевіча альбо багемным раманам Клінава.

У журы ўвайшлі асобы з розных асяродкаў: пісьменнік Арлоў, філосаф Акудовіч, Хадановіч з ПЭН-Цэнтра і Пятровіч з Саюза пісьменнікаў, літаглядальніца «Советской Белоруссії» Людміла Рублеўская і кіраўнік Польскага Інстытута ў Мінску Пятро Казакевіч.

Узнагарода за другое месца (Альгерд Бахарэвіч) прадугледжвае месячны побыт у Вроцлаве і выданне кнігі ў Польшчы, у некамерцыйным выдавецтве «Калегіум Усходняй Еўропы». Андрэй Федарэнка здабыў 3-е месца (атрымае творчую стыпендыю на месяц у Вроцлаве).

## Бескультурныя дзеячы культуры

У залу Палаца мастацтва трапіць можна было толькі па запрашэннях. Мусіць, гэта была памылка. У аўдыторыі бракавала публікі. Праўда, канцэнтрацыя інтэлектуалаў на квадратны метр зашкальвала. Грамадскіх дзеячаў жа было няшмат. Недзе ў задніх шэрагах сядзеў Уладзімір Някляеў, якога асабіста ўзгадаў у сваім вітальным слове часовы паверaны ў справах Польшчы ў Беларусі Вітальд Юраш. Андрэю Хадановічу не заставалася нічога, як пажадаць, «каб беларуская палітыка не сапсавала свята беларускай літаратуры».

Свята ў выніку сапсавала не палітыка, а Сяргей Вераціла, анфан тэрыбль сталічнай багемы. На пытанне вядоўцы, ці ёсць у зале Федарэнка, ён прагарлаў з месца: «Андрэй сказаў, што яму няма тут з кім побач стаяць». Наўрад ці тыя словы сыходзілі ад самога аўтара «Мяжы». Напярэдадні цырымоніі ён вельмі высока ацаніў кнігу Лукашука. Проста, як чалавек закрыты, сарамяжлівы, Федарэнка — аўтар не «цырыманіяльны».

Не прыехалі на цырымонію і два іншыя намінанты: Лукашук з Прагі і Ахроменка з Чарнігава. Лукашук запісаў відэазварот, але тры спробы яго паказаць поспеху не мелі.

Нашмат больш за аўтараў прамаўлялі іх творы. Іх цудоўна ўвасобілі акторы Купалаўскага, у тым ліку магутны Павал Харланчук, што заслужылі авацыю залы.

## Еўропа чакае раманаў

Прэмія Гедройца не гарантуе аўтару поспеху на замежных рынках. Для Еўропы жанр малой прозы — не самы цікавы. Еўрапейцы найлепш чытаюць раманы. Пра гэта месяц таму ў часе Мінскай кніжнай выставы казала Катарына Раабэ, кіраўніца аддзела ўсходнееўрапейскай літаратуры аднаго з найбуйнейшых выдавецтваў Германіі, «Зуркамп».

Як бы ні было, Павал Касцюкевіч стварыў галерэю душэўных і смешных персанажаў, у якіх адбіваецца сённяшняя Беларусь: ашмянскія бабулькі-кантрабандысткі, ВДВшнікі, міжпланетныя аўтаперагоншчыкі, вайна з дзьмухаўцамі, якія паставілі сабе ў якасці мэты захоп Беларусі. Пазнавальная пабудова фразы і дзіўная «хуткасная» мова апавяданняў Касцюкевіча працуюць: падчас чытання «Зборнай РБ» узнікае адчуванне, што ты імкнешся сесці ў машыну, якая рухаецца на хуткасці сто кіламетраў у гадзіну. У дадатак да грашовага прыза Касцюкевіч атрымаў пуцёўку на адпачынак у шведскім доме творчасці на балтыйскім востраве Готланд.

«Я вельмі ўдзячны «НН», — сказаў Касцюкевіч. — Частка гэтых апавяданняў была надрукавана менавіта тут, калі я яшчэ жыў у Ізраілі. Гэта дало мне крылы, а, як вядома з псіхіятрыі, калі пісьменніку іх не даць, застаецца толькі клеіць дошчачкі».

Касцюкевіч паабяцаў, што перадасць частку прэміі сям'і палітвязня Сяргея Каваленкі.

**Мікола Бугай, Юрась Ускоў**

### Прэмій больш, чым твораў

Самыя прэстыжныя дзяржаўныя літаратурныя прэміі носяць імёны Якуба Коласа (проза і крытыка), Янкі Купалы (паэзія і драматургія), Кастуся Каліноўскага (публіцыстыка). Яны прысуджаюцца раз на два гады.

Павагай карыстаюцца незалежныя прэміі «Гліняны Вялес» (прысуджаецца ў Полацку) і прэміі імя Францішка Багушэвіча і Алеся Адамовіча, якія прысуджае Беларускі ПЭН-Цэнтр.

Свае прэміі даюць выданні («Залаты апостраф» «Дзеяслова» і «За сумленнае слова» «Arche») і нават персоны («Залатая літара», якую прысуджае Адам Глобус).

### Літаратурная прэмія імя Гедройца

заснаваная Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Беларускім ПЭН-цэнтрам і пасольствам Рэспублікі Польшча. У шорт-ліст увайшло шэсць кніг:

**Уладзіслаў Ахроменка** «Тэорыя змовы» (Мінск: Логвінаў).

**Альгерд Бахарэвіч** «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча» (Радыё «Свабода», серыя «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе»).

**Павал Касцюкевіч** «Зборная Рэспублікі Беларусь па негалоўных відах спорту» (Мінск: Логвінаў).

**Артур Клінаў** «Шалом: ваенны раман» (Мінск: Логвінаў, серыя «Кнігарня «Наша Ніва»).

**Аляксандр Лукашук** «След матылька. Освальд у Мінску» (Радыё «Свабода», серыя «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе»).

**Андрэй Федарэнка** «Мяжа» (Мінск: Літаратура і мастацтва, серыя «Лімаўскі фальварак»).

Грашовы прыз — 105 мільёнаў рублёў.

# Колькі каштуе адрамантаваць печку

Усе **печнікі**, відаць, з МНС **разбегліся**.

Апошнім часам бессэнсоўна стала пакідаць каментары на сайтах раённых газет. Разгарнулася такая барацьба за стэрыльнасць — мадэратары падчысціць нават самыя, на іх погляд, мінорныя водгукі. Цяпер пішу Вас мяне выслухаць.

Я спрабую дастукацца з праблемай, якая тычыцца ці не кожнага вяскоўца, вострай, неадкладнай.

Павалілі ў СМІ рэпартажы пра тое, што то там, то сям адбылося ўзгаранне сельскага жылога дома па прычыне «няспраўнасці пячнога ацяплення».

І хто там, прабачце, спяшаецца зафіксаваць факт пажару? Так, яны: добрыя і моцныя хлопцы з МНС. Па сутнасці — «свяшчэнная карова»: бо яны заўсёды побач. Яны заўсёды дапамогуць. Яны добра экіпіраваны. Яны ведаюць сваю справу.

Што ж насамрэч?

Лета 2011 адзначылася «блуканнямі» пажарнай «лятучкі» па нашым населеным пункце. Зразумела, бюджэтнікі. Трэба даваць справаздачу за сродкі, скарачаць выдаткі... Некаторых старых папярэдзілі аб рамонце пячных труб, «інакш схлопачаце штраф».

Добра, хоць і пражываю з вясны па восень «на раёне», трэба было б і мне печ рамантаваць.




Паўстагоддзя ўжо стараецца. Успамінаю: МНС вельмі жвава (некалі) давала ў раённай прэсе аб'явы аб сваіх паслугах: супрацьпажарная апрацоўка канструкцый і г.д. Дэкларавалі яны і паслугу «рамонт печаў».

Але ніводзін пячнік не браўся «разбіць» старую печ і скласці новую танней за 1,5 мільёна рублёў (у 2011). Усе печнікі, відаць, з МНС разбегліся. Праз смехатворныя аклады. Можа, у Расію. Можа, у іншыя галіны народнай гаспадаркі.

Такім чынам, я звярнуўся ў Капыльскае і Нясвіжскае МНС: «Зрабіце печ, прагарэла топка, вуглі высыпаюцца ў бок драўлянай сцяны дома ...»

Бессэнсоўна.

Не. Не могуць! Няма спецыялістаў ...

Да чаго тады гэтыя, прабачце, «пажарныя зводкі», прадпісанні аб заладцы стыкаў коміна, абкладкі азбестацэментавых комінаў цэглай, усталяванні пажарных апавяшчальнікаў? Дзякуй Богу, сумленне не дазваляе пакуль штрафаваць старых. Гэтыя выпаўзаюць са сваіх старых хатак, калі ім паказваюць, якія неабходна вырабіць «супрацьпажарныя мерапрыемствы».

Калі я запрасіў, нарэшце, прыватнага печніка, то да мяне «валам павалілі» суседзі... Але я ж браў на рамонт печкі крэдыт наяўнымі! А так бы не здужаў гэтыя працы. Бо трэба замовіць і прывесці гліну — з аднаго месца, пясок — з іншага... У выніку мантаж новай печкі «зжор» усю суму крэдыту ў 500 даляраў, і гэты крэдыт плачу па сёння...

Што мне было адказаць тады, летам 2011, суседцы, якая плакала, у якой з коміна цэгла сыплецца на галаву і якая на рамонт печкі сабрала ўсяго 600 тысяч?! Пячнік ні ў якую не захацеў працаваць за гэтыя грошы ... І папракнуць яго грэх: бачу, праца цяжкая, брудная, клопатная. Прывязі, замяшай, падцягні... Цагліны пасартыруй: на топку — пашчыльней... Праца гэтая толькі для мускулістых хлопцаў. Вось такіх, напрыклад, якія працуюць у МНС.

**Алег Бабец, Капыльскі раён**

# Беларуская глыбіня. **У гасцях у Сэрца**

Піша **Павел Севярынец.**

*Больш за ўсё запаветнае*
*захоўвай сэрца тваё,*
*бо ў ім крыніца жыцця.*
*Выслоўі Саламонавы 4:23*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Хто б ты ні быў і дзе б ні апынуўся — калі хоць трохі аглядаешся ды прыслухоўваешся, — рана ці позна пачынаеш адчуваць побач нейкі жывы стоены пульс. Пругкі, упарты. Усё вакол дыхае і варушыцца надзіва заканамерна, падзеі маюць таемны цэнтр, і ледзь заўважнымі штуршкамі людзей, сустрэчаў, справаў аднекуль падхлынае дабро і ласка.

Тут-тук, чуеш пранізлівы рытм. Тук-тук, ёсць кантакт, радасна адгукаецца ўсярэдзіне ў цябе, і раптам усё становіцца з галавы на ногі. І ты кажаш сабе: ага. Вось яно дзе. Ну прывітанне, Сэрца.

Айцец Сергій Сысаляцін — той самы, які калісьці вылавіў мяне «вкантакце» і зараз служыць у Спаса-Прэабражэнскай царкве ў Пружанах, — вобраз з абразоў. Малады, вайсковай выпраўкі; прыгожае, мяккае, поўнае ўнутранага спакою ды годнасці аблічча, кароткая чорная барада — тыпаж, у якім любяць выяўляць святых і апосталаў.

**Тук-тук, ёсць кантакт »**

Жыве бацюшка ў вайсковым гарадку пад Пружанамі. Новыя Засімавічы — постсавецкі Вавілон на ўзмежжы Белавежскай пушчы. Сярод дзевяці вайсковых часцей, што складалі ўдарны кулак савецкай арматы на заходнім фарпосце — у засадзе, за пушчай на самай мяжы, — атабарыліся ракетчыкі, лётчыкі, зенітчыкі, танкісты ды сувязісты з усёй імперыі. Вядома, з сем'ямі. І калі 20 гадоў таму тут жа, у Віскулях, Савецкі Саюз быў раптоўна рассаджаны на кавалкі, у вялізным разварушаным мурашніку з пылам эпохі асеў і ўвесь савецкі інтэрнацыянал, якому не было куды падзецца.

Сяргей Сысаляцін служыў у верталётчыках — і, пабываўшы ў небе, прыйшоў да Бога.

Спярша наведваў евангельскую грамаду, дзе былы зампаліт Барыс ліха граў на гармоніку хрысціянскія гімны, затым шукаў паўнаты і глыбіні веры ў Спаса-Праабражэнскай царкве. Нарэшце, настаяцель айцец Ігар і епіскап уладыка Іаан прапанавалі маладому здольнаму панамару прыняць святарскі сан і ўзяць на сябе нялёгкі прыход з недабудаванай царквой у Новых Засімавічах.

Айцец Сергій просты. Жыве як дыша. Выдатна размаўляе па-беларуску. Мае вялізную бібліятэку: святыя айцы, Мень, Бярдзяеў, Фларэнскі, хрысціянская класіка ўсіх канфесіяў, духоўныя часопісы, гісторыя Беларусі... Заўсёды прапануе нешта пачытаць. Вучыцца ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі — між іншым, разам з расійскімі бацюшкамі з Бранска. Смяецца: «Здзіўляюцца — гэта ж, маўляў, па-нашаму — «бурак», «вёска», «услон»... Прастадушныя. Працуюць, каб зарабіць, хто настаўнікам, хто механікам, а ўвечары ў царкву, набажэнства правіць — «не тое, што ў нас...». Расказвае ім пра Браншчыну беларускую, часы ВКЛ, пра карані.

Айцец Сергій найчасцей чытае казані ў Спаса-Праабражэнскай царкве — і, скажу вам, рэдка чую тлумачэнне Слова такой простасці і глыбіні нават у сталіцы. Прапаведуе ў Новых Засімавічах забытаму савецкаму пакаленню, у «вкантакце» — бездапаможным хлопчыкам і дзяўчатам, заблытаным у сеціве, у наркалогіі — напаўразбураным мужыкам, у нядзельнай школцы — дзецям і бабулькам, і, як многія-многія святары ды вернікі апошнія гады — штопятніцы моліцца за Беларусь. І трэба бачыць, з якой надзеяй уваччу няшчасныя беларусы моўчкі глядзяць у ягонае аблічча — быццам на абраз, быццам успамінаюць кагось таго, хто вучыў іх, бацькоў і продкаў праўдзе і справядлівасці ўжо тысячу гадоў.

Дзед айца Сергія (які калісьці працаваў у Купліне качагарам) колькі месцаў ваяваў у 1944 ва Усходняй Прусіі. Аднойчы быў убачыў у акопе забітага немца, і ўсім гэта распавядаў. З гадамі і склерозам мёртвы немец ператварыўся ў жывога, а пад старасць...

«Зазіраю я ў бункер, — на поўным сур'ёзе расказваў дзед, — а там Гітлер. Ну, праўда, кажу табе. І жонка ягоная. І двое дзетак. Дзяўчынкі. Ну, зараз, думаю, фашыст, ты ў мяне атрымаеш за ўсё!.. І... не змог. Застрэліць Гітлера не змог».

Сям'я Сысаляціных — гэта і матуля бацюшкі, гасцінная спадарыня Зінаіда Мікалаеўна, і вялявая матушка Людміла, выхавацелька ў дзіцячым садку, і іх дачка Арына — тонкая дзесяцікласніца з доўгімі вітымі валасамі і выразнымі вачыма, беларускамоўная пераможца алімпіядаў, заўсёдніца канцэртаў Вольскага ды Вайцюшкевіча. Пасля нядзельнай літургіі часцяком заходзіць у касцёл, арганізоўвае ў школе сустрэчы з пружанскімі краязнаўцамі...

Беларускі гісторык, спявак, пісьменнік у Пружанах — Сысаляціны запрашаюць знаёмых. Трэба дапамагчы? Сям'я прымае гасцей.

І Сэрца б'ецца.

Менавіта сябры Сысаляціных, сярод якіх і праваслаўныя, і евангелікі, і каталікі, падвозілі мяне штодня ў царкву і назад у маразы. Так і давялося перазнаёміцца з глыбокімі і пабожнымі пружанцамі.

Айцец Сэрца звычайны прыходскі святар — герой, практычна адсутны ў сучаснай масавай свядомасці ды беларускай літаратуры. Але менавіта святар на працягу ўсёй хрысціянскай гісторыі Беларусі быў душою мясцовай супольнасці, самакіравання, культуры дачыненняў, сямейнай традыцыі, прыстойнага выхавання. Не «Бацька» — «бацюшка».

Сённяшняя Беларусь задыхаецца і губляе прытомнасць якраз з-за відавочных праблемаў з сэрцам. Хто— цэнтр жыцця ў вёсцы, мястэчку, раёне, горадзе? Чыноўнік? Паспяховы бізнесовец? «Сілавік» з дубінай?

Але прыйдзе час, і ў беларусаў, да якіх пагрукаецца прыходскі святар, сэрцы пачнуць адгукацца моцна і радасна: Бог, Бог! Бог!

*Куплін*

# Крот

Павал Касцюкевіч.
Апавяданне.

Нават дыктатар нічога не можа парабіць з кратом.

Насупраць пагорка, што перад парадам прыведзены ў стан баявога кургана, на трыбуне туліцца гарант канстытуцыі, якога абляпілі: лампасы, народныя масы, паветраныя асы, фізкульт-папуасы. Усе як на шпільках — нават ветрык перад праходам танкаў баіцца падзьмуць неяк не так.

І раптам: хто гэта проста пасярод акта нацыянальнага кучкавання так грацыёзна вынырвае з-пад зямлі, лянотна выпускаючы фантанчык нашага неўрадлівага суглінку? Увесь такі ў чорнай шапачцы і ў блішчастым ныральным касцюме з натуральных матэрыялаў? Хто гэта паблажліва аглядае свет сонечнымі акулярамі гузікаў-вачэй? Як клічуць гэтага андэграўндавага персанажа, які сярод дасканалага смарагду пафарбаванай травы пакідае на пагорку раз, два, пяць, сто чорных воспін непарадку і непрыхаванага выкліку? Хто, халера яго не возьме, гэты кайфаломшчык?

А свята тым часам незваротна сапсаванае: народныя масы замест сузірання параднай велічы захапляюцца карцінным краціным нырцаваннем у дзёран. Паветраныя асы б'юць на паваротах баявыя машыны. А здзеклівая істота прыпускае далей — піруэты, па, на-

**Нікога не асвятляць, не свяціцца самому, усё пры сабе, сам у сабе, воля »**

ват патройныя сальта. Занураецца, вынырвае, таньчыць брэйк-дэнс, спалучаючы сінхроннае плаванне з фігурным катаннем. Сволач-крот!

Лампасы ліхаманкава аналізуюць краціныя рухі, шукаюць у іх схаваны сэнс. Можа, сволач-крот пазначае іншаземным дэсантнікам прыдатнае месца для прызямлення? Ці злівае касмічным акупантам каардынаты нашай Зямелькі?

Сволач-крот — гэта табе не калабаранцкая мошка, памяркоўны каларадзец або бесхрыбетная тля. Яго не возьмеш голымі апыленнямі. Вынырвае там, дзе не чакалі, дае нырца туды, дзе не зловіш. Нават горшы за кляшча, бо вупыр шматгадовы.

І шырокапрофільны. Сее ўсё запар: палеткі, працоўны час, не-

**Павал Касцюкевіч**

празаік, перакладчык сучаснай ізраільскай і амерыканскай прозы. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Гедройца. Нарадзіўся ў 1979 у Мінску. Вучыўся на псіхолага ў Тэль-Авіве. Аўтар зборніка апавяданняў «Душпастырскія спатканні для дачнікаў» (2008, серыя «Кнігарня «Наша Ніва»), «Зборная РБ па негалоўных відах спорту» (2011). Працуе арт-дырэктарам кнігарні «логвінаЎ». Жыве ў Мінску.

рвы, спрадвечны гуманізм нашага народа.

Удых. І падземная цемра прыспаным космасам праносіцца абапал, пакідаючы галактыкі светлякоў далёка ззаду. У глыбіню: праз парваныя кабелі каранёў, цераз пакручастыя тунэлі і бясконцыя галерэі. Паўз спалоханыя позіркі іншых жыхароў падзем'я. І родзяцца мімаходзь дзёрзкія думкі, бліскавічныя пачуцці: нібыта гуляеш са смерцю на яе тэрыторыі і робішся відавочцам таго, як усёўсенькае па стравaводзе матухны-Зямлі нясецца ўсё бліжэй да немінучай развязкі. А кіпцястыя лапы, не раўнуючы канцавіны птэрадактыля, правяць гэты бліскучы і цьмяны палёт. Нікога не асвятляць, не свяціцца самому, усё пры сабе, сам у сабе, воля.

Выдых. І чорная паласа сканчаецца, рассыпаецца, ды ў непадрыхтаваныя зрэнкі джгаюць тысячы сонцаў, што крышаць раёк і працінаюць мозг калючым болем. Аднак урэшце атрымліваеш тое, дзеля чаго ты і вяртаўся на паверхню, — не мог не вярнуцца: нагбом выпітая шклянка чыстага паветра.

Няма чалавека, які любіць сволач-крата. Нават баба Маня, святая кабета, бабуля з адукацыі і па нараджэнні, якая во і пеўняў літасціва забівае ўдушаючым прыёмам абгорнутага вакол галавы вышытага ручніка, — нават яна, згледзеўшы на гародчыку чарнічную кірпу ў атачэнні земляных камякоў, хапае добра заіржэлы тамагаўк, жвава падскоквае да разрытай норкі і абедзвюма, скурчанымі артрытам і шматвектарнасцю тутэйшай гісторыі рукамі, пляжыць, пляжыць ужо і так сапсаваны дол. «Сволач, сволач, сволач!..»

Ці забіла? Скулля!

У суботу-нядзелю, укленчыўшы, баба Маня засыпае просьбамі нябеснае адміралцейства. У панядзелак яе малітвы пачутыя — на калгасныя нівы прыязджаюць пажарныя машыны і сорак дзён ды сорак начэй МНСнікі ліюць ваду ў бяздонныя шахты, у галавакрутныя лабірынты, што спраектаваў злы марыярці айчыннага падполля.

Вада сыходзіць, і на свет Божы




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Помнік крату ў Бярозе. Без жартаў.**

выплываюць дзесяць трупікаў палёвак і пацукоў, пара-тройка — Сямёнавічаў і Францавічаў, нават адна жаба лопнула ад такога напору. І хоць бы адна сво... Стоп-стоп, а што гэта чарнее на траве побач? Шкада: гэта толькі яго чорная шапачка і сонечныя акуляры. Такі пазбегнуў праведнай адплаты: растаў, як цукар, сволач-крот, сплыў, уцёк, змыўся на іншы ўзровень.

Што сядзіць у мазгу гэтага пякельнага выпаўзня:

якая мудрагелістая машына,
якая макабрычная агрэгаціна?

Хто кіруе гэтымі неўтаймаванымі нічым паводзінамі?

Хто грае на генным аргане гэнага арганізма гэтакія пачварныя гімны?

Ад шматлікіх пытанняў у дыктатара торгаецца шчака ды з напругі страляюць коркі генералісімаўскіх эпалетаў. А баба Маня па-простаму, па-рабочасялянску, трапляе з інсультам у рэанімацыю.

**Карэспандэнт:** А зараз дамо слова кіраўніку службы аховы і па сумяшчальніцтве ўнуку бабы Мані. Таварыш службіст-унук, як вам удалося схапіць падземнага монстра?

**Кіраўнік службы аховы:** На тры-пятнаццаць... І, што характэрна, на допыце ўсіх запрадаў, сволач: яўкі, паролі, рыбныя месцы. Нават родны хвост.

**Кар.:** Што інкрымінуецца гэтаму запраданцу?

**КСА:** Вынаходства гіены вогненнай, разбурэнне Пампеі, канструяванне калодзежа іківача, усе забойствы на вуліцы Морг. І яшчэ запішыце: баскервільскі сабака скончыў сваю спрынтарскую кар'еру ў грымпенскай дрыгве дзякуючы зламысна спланаванаму дзеянню (ці бяздзеянню) гэтай сволачы-крата.

**Кар.:** Запішам. Дык, дарэчы, дзе цяпер гэты чорны капач, хай тройчы будзе праклята ягонае імя? У кампетэнтных сутарэннях?

**КСА:** Не зусім там. Як бы гэта вам сказаць, каб нічога не сказаць... Ну, вы ж разумееце... Ён на іншым узроўні... У іншых вымярэннях... І ў дадатак ніхто з нашых пацаноў не разумее па-краціначу... Допыт мы яму рабілі так бы мовіць... э-э, невербальна... э-э, дыстанцыйна... Наўслеп ідучы па лабірынтах краціната мозга... Дэдуктыўную фантазію і крыміналісцкі вымысел ставілі ў галаву следства. Адным словам, мы патушылі ў канторы святло, запалілі свечку, усёй аператыўнай групай селі ў кола, узяліся за рукі і дапыталі ягоны дух...

Вось жа: падагнаўшы бабе Мані ў бальніцу апельсіны, а дыктатару ў рэзідэнцыю — невялічкае радовішча нафты, у жоўтай шапачцы лідара, у брыльянтавых sunglasses ад Армані, сволач-крот па Леце няспешна сплаўляецца ў бок цэнтра зямлі. Без натугі той цэнтр мінае — і вунь дзе ён: злавесным антыподам набліжаецца да Аўстраліі. Трохі запыняецца на зямной паверхні і расце. Сволач-крот увышкі з ранча, шматпавярховік, сіднейскую тэлевежу. Дамарослым кінг-конгам паглядае на ўсіх нас зверху ўніз. І толькі тады стартуе ў неба: як тузік грэлку рве зямное прыцягненне, распраствае лапакрылы і самавітымі ўзмахамі кіруе да зор, каб прасвідраваць у космасе дасканала чорную дзірку, якая ўсіх нас і накрые.

**Юбілей**

# Ён стварыў эталон «Пагоні»

6 сакавіка мастак Уладзімір Крукоўскі адзначае 75-годдзе.



Выбітны плакатыст Уладзімір Крукоўскі яшчэ ў брэжнеўскія часы стварыў класічны вобраз Маці-Беларусі з мячом і старажытнымі гербамі гарадоў на грудзях. Плакат сведчыў, насуперак савецкай ідэалогіі, што гісторыя Беларусі пачалася задоўга да 1917-га.

Крукоўскі быў актыўным удзельнікам мастакоўскай незалежніцкай групы «На Паддашку» ў 1970-80-я. А калі Беларусь стала незалежнай, менавіта Крукоўскі разам з Яўгенам Куліком стварыў эталон дзяржаўнага герба «Пагоня».

А яшчэ ён стварыў у 1990 годзе эскізы талераў з выявамі знакавых дзеячоў беларускай культуры і нацыянальнай сімволікай.

За Лукашэнкам плакаты Крукоўскага, сябра незалежнай мастакоўскай суполкі «Пагоня», неаднаразова здымаліся з выставаў.

«Наша Ніва» далучаецца да віншаванняў! Многая лета!

**Юрась Ускоў**

# Джып-спрынт


Паглядзець на спаборніцтвы джыпаўусёдарожнікаў можна будзе 10—11 сакавіка ў пасёлку Баравая, што пад Мінскам.

## ГАНДБОЛ

### Чацвёрка наймацнейшых

**9-11 сакавіка** ў Мінску чацвёра наймацнейшых мужчынскіх клубаў краіны працягнуць барацьбу за медалі.
**9 сакавіка:** «Дынама» (Мінск) — «Машэка» (Магілёў), СКА (Мінск) — БГК імя Мяшкова (Брэст);
**10 сакавіка:** БГК імя Мяшкова — «Дынама», СКА — «Машэка»;
**11 сакавіка:** БГК імя Мяшкова — «Машэка», СКА — «Дынама».

## ІМПРЭЗЫ

### SHUUKI

**11 сакавіка а 15-й у Westworld Club (Старажоўская, 15а)** — ІІ беларускі фэст нефарматнага року SHUUKI, асновай якога з'яўляецца японскі рок і сучасная музыка Азіі.

## КАНЦЭРТЫ

### Без білета

**7—8 сакавіка а 19-й у RE:Public (Прытыцкага, 62)** — гурт «Без Білета».

### Madera Hard Blues

**10 сакавіка а 18-й у «Графіці»** — Madera Hard Blues.

### Балет Грузіі

**10 сакавіка а 19-й у Палацы Рэспублікі** — нацыянальны балет Грузіі «Сухішвілі»

### Санаты для скрыпкі і фартэпіяна

**10 сакавіка а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт "Выбраныя санаты для скрыпкі і фартэпіяна»

### Ірландскія танцы

**10 сакавіка а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — «Ірландскія танцы». Возьмуць удзел ансамблі «Рагнеда» і Bass Dance.

### Apple Tea

**11 сакавіка а 18-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — джаз-бэнд Apple Tea.

### Кені Джы

**13 сакавіка а 19-й у Палацы Рэспублікі** — запрашаем аматараў джаза і блюза на канцэрт Кені Джы.

### Шэдэўры арганнага мастацтва

**13 сакавіка а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — канцэрт «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва».

### Старонкі музычнай спадчыны

**14 сакавіка а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — канцэрт «Старонкі музычнай спадчыны».



### Ultra-Music Awards 2011

**11 сакавіка а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — Ultra-Music Awards 2011. Бяруць удзел «Тройца», Pomidor/Off, IQ48, «Петля Пристрастия», The Stampletons, Monkey Bite.

## ВЫСТАВЫ

### Мастацтва пачынаецца з малога

**Да 9 красавіка ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Мастацтва пачынаецца з малога», на якой можна будзе ўбачыць беларускі жывапіс ХХ стагоддзя з прыватных калекцыяў.

### Берлін. Фотаздымкі

**Да 23 сакавіка ў Палацы мастацтва (Казлова,3)** працуе выстава нямецкага фатографа Герыта Энгеля «Берлін. Фотаздымкі». Упершыню ў Беларусі гледачам прапануюцца 42 фота, зробленыя Герытам Энгелем падчас яго працы над аднайменным альбомам, які выйшаў у свет у Германіі ў 2009 годзе.

### Жывапіс раскрыжаванай душы

**Да 13 сакавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава «Жывапіс раскрыжаванай душы», прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння мастака М.Савіцкага. На выставе прадстаўлены кнігі, часопісы, паштоўкі, плакаты, рэпрадукцыі карцін мастака.

### Трапічныя мятлушкі

**Да 22 красавіка ў Доме-музеі І з'езда РСДРП** працуе выстава жывых трапічных мятлушак. На выставе можна ўбачыць мятлушак з Паўднёва-Усходняй Азіі, Аўстраліі і Амерыкі.

### Свет жамяры

**Да 18 сакавіка ў Доме прыроды (Багдановіча, 9а)** працуе выстава «Свет жамяры», на якой прадстаўлена мноства відаў жамяры з розных мясцін Зямлі: экзатычныя мятлушкі з Афрыкі, Новай Гвінеі і Філіпін, жукі з Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі...

### Цывілізацыя

**Да 14 сакавіка ў мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт» (Раманаўская слабада, 24)** працуе выстава твораў Канстанціна Андрукові́ча «Цывілізацыя». На выставе прадстаўленыя творы аўтара, абумоўленыя ягонымі развагамі аб светабудове, асэнсаванні дзейнасці чалавецтва...

### Жыццё ў танцы

**У інфармацыйна-выставачным цэнтры Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАН Беларусі (Сурганава, 15, п.110)** працуе выстава «Жыццё ў танцы», прымеркаваная да 110-годдзя з дня нараджэння таленавітага беларускага танцоўшчыка, балетмайстра, збіральніка беларускага харэаграфічнага фальклору Янкі (Івана Маркавіча) Хвораста (1902–1983). Аснову юбілейнай экспазіцыі, якая распавядае пра жыццёвы і творчы шлях Янкі Хвораста, складаюць дакументы і матэрыялы з яго асабістага архіва, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі.

### У свеце фантазіяй і чарадзейства

**Да 31 сакавіка ў бібліятэцы імя Пушкіна (Гікалы, 4)** працуе выстава аматараў вышывання «У свеце фантазій і чарадзейства». На выставе прадстаўлена 130 вышываных працаў, выкананых у самых розных тэхніках і відах, — казачныя героі, фантазійныя краявіды, феі, адзінарогі, пегасы, цмокі...

### Кветкавы рай V

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 29 сакавіка** працуе мастацкая выстава «Кветкавы рай V». Кветкі суправаджаюць людзей усё жыццё. Са старажытных часоў амаль ва ўсіх народаў свету прынята сустракаць і суправаджаць у асабліва важных выпадках кветкамі. Сёлета на выставе можна ўбачыць не толькі творы жывапісу, графікі, фота- і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і эксперыментальныя кампазіцыі з разнастайных матэрыялаў.

### Валенці Ваньковіч: «Партрэт Войцаха Пуслоўскага»

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі** экспануецца партрэт Войцаха Пуслоўскага пэндзля Валенція Ваньковіча. Гэты твор В.Ваньковіча ўпершыню экспануецца ў Беларусі.

### Слуцкія паясы

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі** экспануюцца чатыры слуцкія паясы са збораў Нацыянальнага мастацкага музея Літвы ў Вільні.

## ТЭАТРЫ

### 8 сакавіка

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

### 9 сакавіка

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 10 сакавіка

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раях»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»

### 11 сакавіка

**Оперы і балета** — «Чароўная музыка»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Лялек** — «Вянчанне»

### 13 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 14 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 15 сакавіка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

### 16 сакавіка

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раях»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»

### 17 сакавіка

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

## КІНО

### Клятва без памяці

**Клятва (The Vow)**
ЗША — Бразілія — Францыя — Аўстралія — Вялікабрытанія — Германія, 2012, каляровы, 104 хв.
**Рэжысёр:** Майкл Саксі
**Ролі выконваюць:** Рэйчэл МакАдамс, Чэнінг Татум, Сэм Ніл, Джэсіка Лэнг, Скот Спідмэн
**Жанр:** меладрама
**Адзнака:** 3,5 (з 10)

Пасля аварыі Пейдж згубіла памяць. Яна не памятае свайго мужа Леа і лічыць яго чужым чалавекам. Леа вырашае вярнуць сабе жонку. Але ці вернецца да гераіні памяць?
Кожная меладрама — гэта гульня амнезіі і помслівай памяці. Адным палюбоўнікам замінаюць мінулыя грахі, другія пакутуюць ад беспамяцтва. Гераіня актрысы Рэйчэл МакАдамс то шчаслівая ў забытых сямейных сцэнах, то напружаная побач з невядомым ёй мужам.
Хаця фільм пра каханне, што змагаецца з забыццём, саладжавы, як цукеркі, пастаўлены ён па рэальнай гісторыі. І гэта самая неверагодная праўда стужкі.

**Андрэй Расінскі**



# Альтэрнатыва БРСМ

Марат Абрамоўскі пачынаў разам з Вячаславам Дзіянавым, але сканцэнтраваўся на **забаўляльных флэш-мобах**.



**«Авангард» на свае мерапрыемствы збірае ўнушальную колькасць удзельнікаў.**

«Нідзе больш, як у нашай краіне, няма столькі незанятых «рынкавых нішаў» для дзейнасці», — лічыць стваральнік моладзевай суполкі «Авангард» Марат Абрамоўскі.

У большасці моладзі «Авангард» асацыюецца з флэш-мобамі. Хто не ў тэме: уявіце, што частка людзей у нейкім месцы раптам пачынае выконваць аднолькавыя дзеянні. Напрыклад, абдымацца, кідацца снежкамі ці пускаць нябесныя ліхтарыкі. Дык вось гэта і ёсць флэш-моб.

Значным этапам развіцця «Авангарда» стаў флэш-моб «Мокрыя войны» ля Опернага тэатра, які адбыўся мінулым летам на дзень рэспублікі. Больш за 1000 удзельнікаў акцыі весела аблівалі вадой адзін аднаго. А вось яе арганізатара выклікалі на допыт. Калі Абрамоўскаму сказалі «развязваць шнуркі» і адправілі ў трохдзённы «тур» на Акрэсціна, ён зразумеў: трэба легалізавацца. Закон пра масавыя мерапрыемствы ніхто не адмяняў. Як кажуць, хоць і «dura», але «lex».

Наступныя флэш-мобы праводзіліся з дазволу гарадскіх уладаў. Першай легальнай акцыяй сталі фры-хагс («бясплатныя абдыманкі»). «Дабро» на яе правядзенне атрымалі з пятага разу (што значыць настойлівасць!).


**Ліхтарыкі на плошчы Бангалор у салідарнасць з хворымі на СНІД.**

Затым — танцавальны флэш-моб у гандлёвым-цэнтры «Сталіца» і масавае пусканне нябесных ліхтарыкаў на плошчы Бангалор у знак барацьбы са СНІДам.

Асноўная мэта «Авангарда» — адукацыйная. Удзельнікі «Англійскага клуба» вывучаюць мову, выкарыстоўваючы элементы гульні. А задача нядаўна створанага «Кніжнага клуба» — выхоўваць інтэлігентаў. «Авангард» скіраваны на тых, хто мае ўласныя ідэі і жадае іх ажыццявіць.

Цяпер ідзе праект па «ўпрыгожванні» гарадскіх сметніц. «Мінск лічыцца чыстым горадам і адначасова шэрым. Гуляючы са словамі «чысціня» і «шэры», з'явілася ідэя размаўлёўваць сметніцы. Напрыклад, у выглядзе цмока», — кажа Абрамоўскі.

**«Наша Ніва»: Адкуль у «Авангарда» грошы на рэалізацыю праектаў?**

**Марат Абрамоўскі:** Я сам спансарую «Авангард». А крыніца маіх прыбыткаў — сямейны бізнэс (валодаем невялікай кандытарскай). З сакавіка мы ўводзім сімвалічныя сяброўскія зборы — 10 тысяч рублёў. Ну і шукаем альтэрнатыўныя крыніцы даходаў.

**«НН»: Ці падтрымліваеш сувязь з былымі паплечнікамі з «Руху будучыні»?**

**МА:** «Авангард» выйшаў з «Руху будучыні» ў 2010. Дзіянава цягнула на палітыку. Маё бачанне было іншым. Цяпер часам перапісваемся, але мы разышліся.

**«НН»: З БРСМам не супрацоўнічаеце?**

**МА:** «Авангард» — гэта альтэрнатыва БРСМ, і моладзь успрымае гэта пазітыўна. Мэтавая група ў нас аднолькавая. Мы не ўлазім у палітыку, і ў нас дастаткова паспяховыя рэалізаваныя праекты. БРСМ таксама мог бы арганізаваць танцавальны флэшмоб, але гэтага не зрабіў.

**«НН»: То бок лезці ў палітыку ты не хочаш?**

**МА:** Яшчэ ў дзяцінстве я хацеў стаць прэзідэнтам. Гэта мая жыццёвая мэта, але не на сённяшні дзень. Можа, год праз 10—15. Такую пасаду трэба заслужыць. Не дастаткова выйсці пакрычаць на плошчу, трэба рабіць рэальныя справы. Для мяне «Авангард» — гэта зарабіць «пункты» на перспектыву. Я паказваю, што я магу. Мы адыходзім ад чыста забаўляльнай дзейнасці, пераключаемся на сацыялку.

**«НН»: Наколькі рэальна дасягнуць поспеху ў беларускіх рэаліях?**

**МА:** Якраз у Беларусі стаць «кімсьці» нашмат прасцей. Мне дзіўна, чаму большасць маладых людзей хоча з'ехаць. Канечне, умовы не самыя спрыяльныя. Але і незанятых нішаў паболей. Бяры — не хачу.

**Аксана Рудовіч**


**Марат Абрамоўскі**

Нарадзіўся 2 студзеня 1989 у Мінску. Вучыцца ў ІПП (Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва). Не жанаты. Стваральнік праекта «Авангард». Адзін з заснавальнікаў «Руху будучыні».

# На Нарачы створаць сафары-парк

Туды будуць вазіць экскурсіі, каб **азнаёміцца з жывёламі**.

Работы па будаўніцтву спецыяльных вальераў для ўтрымання і развядзення дзікіх жывёл запланаваны на 2012–2013. «Неабходная праектная дакументацыя ўжо распрацавана, думаю, калі сыдзе снег, мы пачнём практычную рэалізацыю праекта», — адзначыў намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце нацпарку Валерый Люштык.

Сафары прадугледжвае арганізацыю паездак, у час якіх турысты могуць азнаёміцца з жывёламі, што насяляюць прыродаахоўную зону.

Цяпер спецыялісты Нацыянальнага парку «Нарачанскі» вырашаюць, каго пасяліць у сафары-парк і чым здзівіць турыстаў. Плануецца, што першымі навасельцамі парку будуць капытныя віды жывёл.

Экалагічны турызм, у тым ліку сафары-паркі, сёння карыстаюцца ўсё большай папулярнасцю ва ўсім свеце. Гэты напрамак плануюць развіваць і ў Беларусі.

Сафары-туры ўжо адкрыліся і паспяхова праводзяцца ў нацыянальных парках «Белавежская пушча» і «Прыпяцкі». У будучым яны з'явяцца ва ўсіх нацпарках Беларусі.

**БелТА**

**Нацыянальны парк «Нарачанскі»**

Размешчаны на тэрыторыі Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай абласцей. Яго агульная плошча складае 97,3 тыс.га. У флоры рэгіёна сустракаецца 30 рэдкіх і знікаючых відаў раслін, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі. Мноства куткоў прыроды тут захавалася ў некранутым выглядзе, напрыклад, прыродны комплекс «Блакітныя азёры», дзе расце меч-трава звычайная — рэдкі, знікаючы від расліны першай катэгорыі аховы. На тэрыторыі нацыянальнага парку расце таксама дзікі гладыёлус, орхісы, еўрапейская пярэсна. На Еўрапейскім кантыненце гэтыя расліны можна сустрэць крайне рэдка.

